Друкуецца па рашэнні рэдакцыйна-выдавецкага савета МДПІ імя А.М.Горкага.

Складальнік - Г.І.Бавылева

У слоўніку даецца азначэнне асноўных эканамічных тэрмінаў, катэгорый, законаў, з якімі студэнты сустракаюцца пры вывучэнні эканамічнай тэорыі. Адрасуецца студэнтам ВНУ, якія вывучаюць асновы эканомікі на роднай мове.



А

Абсолютная прибавочная стоимость — абсалютная дадатковая вартасць. Вартасць, якая утвараецца працай наёмнага рабочага звыш вартасці яго працоўнай сілы і бязвыплатна (дармова) прысвойваецца капіталістам. Вытворчасць, прысваенне дадатковай вартасці выражаюць асноўныя вытворчыя адносіны капіталістычнага спосабу вытворчасці - гэта асноўны закон капіталізму.

Абсолютная рента — абсалютная рэнта. Форма капіталістычнай зямельнай рэнты, якую параджае манаполія прыватнай уласнасці на зямлю - абшчынную, класавую, феадальную, дробную сялянскую, якая адпавядае капіталістычнаму спосабу вытворчасці, буржуазнай зямельнай уласнасці.

Аванс — аванс. Задатак, грашовая сума, якая выдаецца наперад, у лік будучай аплаты.

Авансированный капитал — авансаваныя грошы. Грошы, якія выдаткоўвае прадпрымальнік для куплі сродкаў вытворчасці і працоўнай сілы з мэтай атрымання прыбытку.

Автоматизация производства — аўтаматызацыя вытворчасці. Прымяненне у вытворчасці аўтаматаў (машын, прыбораў, апаратаў, прыстасаванняў, робатаў). Аўтаматы двейнічаюць самастойна пасля пуску іх чалавекам. Работнік толькі кантралюе, рэгулюе і рамантуе аўтаматы.

Автоматизированная система управления (АСУ) — аўтаматызаваная сістэма кіравання. Комплекс метадаў і сродкаў, якія забяспечваюць эфектыўнае кіраванне складанымі працэсамі у сучасных умовах навукова-тэхнічнай рэвалюцыі.

Авуары — авуары. Сродкі банка, якія знаходзяцца на захаванні у замежным банку. Могуць складацца з валюты, каштоўных папер і золата.

Аграрная политика — аграрная палітыка. Дзейнасць дзяржавы, партыі ці грамадскай групы у вобласці аграрных адносін. Аграрная палітыка - частка эканамічнай палітыкі, накіраваная на вырашэнне аграрнага пытання, пытання аб кірунках развіцця сельскай гаспадаркі, аб уласнасці на зямлю і другія сродкі вытворчасці у сельскай гаспадарцы, аб адносінах паміж класамі у сувязі з зямельнай уласнасцю.

Аграрная революция — аграрная рэвалюцыя. Гвалтоуная ломка існуючых аграрных адносін, якія тармозяць развіццё прадукцыйных сіл. Сутнасць аграрнай рэвалюцыі у поунай ліквідацыі дакапіталістычных грамадскіх адносін, буйнага землеуладання памешчыкау і заснаваных на ім форм эксплуатацыі, усіх перажыткау феадалізму у сельскай гаспадарцы.

Аграрная структура — аграрная структура. Суадносіны у сельскай гаспадарцы асобных гаспадарак і іх удзельная вага у агульным кошце вытворчасці і сельскагаспадарчай прадукцыі, якія адлюстроуваюць класавую дыферэнцыяцыю у сельскай гаспадарцы.

Аграрно-промышленные объединения — аграрна-прамысловыя аб'яднанні. Комплекс сельскагаспадарчых прадпрыемствау, тэрытарыяльна, арганізацыйна і тэхналагічна аб'яднаных з прадпрыемствамі харчовай і перапрацоучай прамысловасці.

Аграрно-промышленный комплекс — аграрна-прамысловы комплекс. Сукупнасць галін народнай гаспадаркі, якія заняты вытворчасцю прадуктау харчавання (і іншых сельскагаспадарчых тавараў), забеспячэннем імі насельніцтва, вытворчасцю сродкау вытворчасці для сельскай гаспадаркі і абслугоуваннем сельскай гаспадаркі.

Аграрные отношения — аграрныя адносіны. Вытворчыя адносіны у сельскай гаспадарцы, якія вызначаюцца характарам землеуладання і землекарыстання.

Аграрные реформы — аграрныя рэформы. Пераутварэнні сістэмы землеуладання і землекарыстання. Па сваёй сутнасці А.Р. маюць антыфеадальны характар: яны накіраваны на ліквідацыю феадальных перажыткау, якія замінаюць свабоднаму развіццю капіталізму у сельскай гаспадарцы.

"Аграрный биметаллизм" — "аграрны біметалізм". Характарыстыка, дадзеная У.І.Леніным меньшавіцкай аграрнай праграмы муніцыпалізацыі зямлі па аналогіі з біметалізмам.

Аграрный вопрос — аграрнае пытанне. У шырокім сэнсе слова пытанне пра уласнасць на зямлю у класавым грамадстве, пра адносіны паміж класамі на падставе зямельнай уласнасці і звязанай з гэтым класавай барацьбе. Галоунае у А.П. - сялянскае пытанне.

"Аграрный вопрос и критики Маркса" — "Аграрнае пытанне і крытыкі Маркса". Праца У.І.Леніна, прысвечаная галоуным праблемам





марксісцкай тэорыі аграрнага пытання у распрацоуцы праграмы і тактыкі рабочай партыі у адносінах да сялянства.

Аграрный строй — аграрны лад. Сукупнасць грамадскіх адносін розных класау і сацыяльных ладоу, абумоуленая сістэмай землеуладання, землекарыстання, якая склалася гістарычна.

Аккредитив — акрэдытыу. І. Грашовы дакумент, які сведчыць аб праве асобы, на імя якой ён выданы, атрымаць у крэдытнай установе (банку, у прыватным ашчадным банку) указаную у ім суму.
2. Адзін з відау банкаускага рахунку. Выкарыстоуваецца у нашай дзяржаве як форма безнаяуных іншагародных разлікау паміж прадпрыемствамі і арганізацыямі, а таксама у міжнародных разліках па камерцыйных аперацыях. Адкрываецца па даручэнню плацельшчыка у банку, які абслугоувае контрагента.

Акселератор — акселератар. Паказчык, які выкарыстоуваецца у дзяржауным рэгуляванні рыначнай эканомікі. Прынцып акселерацыі зыходзіць з таго, што павялічэнне або змяншэнне спажывецкіх расходау вызывае змены у накапленні капіталу.

Активы — актывы. Разліковая катэгорыя, якая уключае вартасць уласнай маёмасці рыначнага суб'екта плюс сродкі і запасы, якія прызначаны для уплаты запазычанасці.

Акционерное общество — акцыянернае таварыства. Форма арганізацыі вытворчасці на аснове цэнтралізацыі грашовых сродкау шляхам продажу акцый. Атрымала шырокае распаусюджванне у краінах з рыначнай эканомікай у форме карпарацый. Існуюць два віды А.Т. - "закрытыя", якія належаць некалькім асобам (заснавальнікам) і не прадаюцца на свабодным рынку, і "адкрытыя", якія свабодна прадаюцца і набываюцца.

Акционерный капитал — акцыянерны капітал. Сродкі, атрыманыя у выніку выпуску і размеркавання акцый і утвараюць асабісты капітал таварыства.

Акция — акцыя (ад лац. астро- распараджэнне, дазвол, прэтэнзія). Каштоуная папера, якая сведчыць пра удзел яе уладальніка у капітале акцыянернага таварыства, якая дае яму права на атрыманне нейкай часткі прыбытку гэтага таварыства у выглядзе дзівідэнта.

Амортизационный фонд — амартызацыйны фонд. Грашовыя сродкі, прызначаныя для пакрыцця кошту зносу сродкау працы. А.ф. утвараец-

ца шляхам перыядычных амартызацыйных вылічэнняў па устаноўленых нормах амартызацыі і з'яўляецца крыніцай вытворчасці сродкаў працы.

Амортизация — амартызацыя. Паступовае перанясенне вартасці асноўных фондаў на створаным з іх дапамогаю прадукт ці паслугу, мэтавае накапленне грашовых сродкаў і іх наступнае прымяненне для ўзнаўлення зношаных асноўных фондаў.

Аналитическая оценка работ — аналітычная ацэнка працы. Метад параўнання розных відаў працы паміж сабой і іх групоўкі ў залежнасці ад складанасці і другіх фактараў, якія вызначаюць якасныя адрозненні працы.

Анархия производства — анархія вытворчасці. Бясспланавасць, хаатычнасць грамадскай вытворчасці, якая развіваецца ва ўмовах стыхійнага дзеяння эканамічных законаў.

Аренда — арэнда. Маёмасны наём, дагавор, па якому адзін бок (арандатар) прад'яўляе другому боку (арандатару, найміту) маёмасць у часовае карыстанне за пэўную плату.

Аренда земли — арэнда зямлі. Форма землекарыстання, пры якой уласнік зямлі перадае зямельны участак на пэўны час другой асобе (арандатару) для распараджэння гаспадаркай за пэўную ўзнагароду (арэндную плату).

Аренда предприятий — арэнда прадпрыемстваў. Перадача прадпрыемстваў, якія належаць дзяржаве, працоўным калектывам, асобам.

Аудиторская служба — аўдыторская служба. Арганізацыя, якая ажыццяўляе на аснове дагавору платны ўнеьедамасны незалежны кантроль за падтрыманнем устаноўленага парадку ажыццяўлення фінансава-гаспадарчых аперацый, уліку і справаздачы шляхам рэвізій і праверак, а таксама тая, якая выконвае экспертныя і іншыя паслугі па аналізу фінансавых аспектаў дзейнасці прадпрыемстваў і арганізацый.

Аукционная торговля — аўкцыённы гандаль. Від рыначнага гандлю, пры якім прадавец,з мэтаю атрымання максімальнага прыбытку, выкарыстоўвае канкурэнцыю некалькіх альбо многіх пакупнікоў, якія прысутнічаюць пры продажы. Пры аўкцыённым гандлі прадавец вызначае стартавую цану тавара, якая павялічваецца ў ходзе аўкцыёна да свайго прэдзельнага ўзроўню, зыходзячы з плацежаздольнасці прысутнічаючых на аўкцыёне пакупнікоў.



Б

Базис и надстройка — базіс і надбудова. Асноўныя паняцці гістарычнага матэрыялізму, якія раскрываюць сувязь матэрыяльных і ідэалагічных адносін пэўнага грамадства. Базіс - сукупнасць вытворчых адносін, адпаведных пэўнай ступені развіцця матэрыяльных прадукцыйных сіл. Надбудова - сукупнасць прававых і палітычных устаноў і ідэалагічных (палітычных, прававых, маральных і г.д.) суадносін.

Баланс — баланс. Становішча ў эканоміцы, калі паміж яе часткамі існуе пэўная раўнавага. Баланс - вынік дзеяння эканамічных законаў і ўлік іх патрабаванняў людзьмі ў планаванні і рэгуляванні вытворчасці.

Баланс платежный — баланс плацёжны. Розніца паміж агульнай сумай плацяжоў замежным дзяржавам і атрыманай ад іх на працягу пэўнага часу сумай. Плацяжы і паступленні уключаюць золата, вартасць тавараў і паслуг (фрахт, страхавыя плацяжы), расходы турыстаў, рух капіталаў (крэдытаў і інвестыцый), выплаты працэнтаў і дывідэнтаў, а таксама асноўнай сумы крэдытаў. Пры пазітыўным плацёжным балансе паступленні перавышаюць выплаты, пры негатыўным - наадварот.

Баланс прибылей и убытков — баланс прыбыткаў і ўбыткаў. Розніца паміж коштам продажу і расходаў фірмы. Сукупны прыбытак роўны сукупнаму даходу мінус сукупныя выдаткі.

Баланс расчетный — баланс разліковы. Розніца паміж коштам нацыянальных актываў за мяжой і замежных актываў у краіне.

Баланс торговый — баланс гандлёвы. Суадносіны паміж сумай цэн тавараў, вывезеных якой-небудзь краінай або групай краін,і сумай цэн тавараў, увезеных імі за пэўны перыяд, напрыклад, за год, квартал, месяц.

Банки — банкі. Установы, галоўныя функцыі якіх - акумуляцыя грашовых сродкаў, крэдыту, ажыццяўленне грашовых разлікаў, эмісія крэдытных прылад абарачэння, выпуск розных каштоўных папер і інш.

Банкирские дома — банкірскія дамы. Прыватныя банкаўскія прадпрыемствы, якія належаць асобным банкірам або групам банкіраў, аб'яднаных у таварыствы з неабмежаванай адказнасцю.

Банкирский кредит — банкірскі крэдыт. Пазыка у грашовай або таварнай форме пры умовах вяртання і звычайна з платай працэнта, пры руху якой паміж крэдыторам і пазычальнікам складаюцца вызначаныя эканамічныя адносіны.

Банкноты — банкноты. Грашовыя знакі, выпушчаныя у абарачэнне цэнтральнымі эмісійнымі банкамі.

Банковская система — банкаўская сістэма. Тэрмін, які характарызуе структуру і аперацыі нацыянальных банкаў.

Банковские депозиты — банкаўскія дэпазіты. Уклады, якія даюць права атрымаць у банку пэўную суму грошай на аснове або папярэдняй уплаты у банк эквівалентнай колькасці грошай ці другой валюты, або за кошт крэдыту.

Банковский капитал — банкаўскі капітал. Капітал, укладзены у банкаўскае прадпрыемства банкірам або акцыянерам банка.

Банкротство — банкруцтва. Даўгавая неплацежаздольнасць, адказ узяўшага заём плаціць свае даўгі з-за адсутнасці у яго грошай, фінансавы крах, разарэнне, закрыццё прадпрыемстваў і звальненне рабочых па эканамічных прычынах.

Бартерная сделка — бартэрная здзелка. Прамы натуральны тавараабмен (без выкарыстання грошай) паміж дзяржавамі, фірмамі, прадпрыемствамі у перыяд неразвітых таварных адносін і неўстойлівасці валют. Хоць пры бартэрных аперацыях не адбываецца грашовых плацяжоў, таварныя пастаўкі ацэньваюцца у грашовай форме і балансіруюць у адпаведнасці з цэнамі.

Безналичные расчеты — безнаяўныя разлікі. Грашовыя разлікі, пры якіх плацяжы ажыццяўляюцца без удзелу наяўных грошай і завяршаюцца шляхам заліку ўзаемных патрабаванняў або пераводу сродкаў з рахунку плацельшчыка на рахунак атрымальніка у крэдытнай установе.

Безработица — беспрацоўе. Сацыяльна-эканамічная з'ява, пры якой частка працоўных не можа знайсці сабе працы, становіцца адносна празмерным насельніцтвам, рэзервовай арміяй працы.

Бизнес — бізнес. Эканамічная дзейнасць суб'екта ва ўмовах рыначнай эканомікі, накіраваная на атрыманне прыбытку.

Биметаллизм — біметалізм. Грашовая сістэма, пры якой за двумя металамі – золатам і срэбрам – заканадаўча замацоўваецца роля агульнага эквіваленту, і манеты, адчаканеныя з гэтых металаў,



абарачаюцца на роўных асновах.

Биржа — біржа. Арганізацыйная форма рынку, на якім адбываецца гандаль таварамі (таварная біржа), папяровымі бумагамі (фондавая і валютная біржы) ці найм работнікаў (біржа працы) на аснове суадносін попыту і прапановы. Гэта месца, дзе прадаўцы і пакупнікі сустракаюцца з мэтай заключэння здзелак.

Биржа ценных бумаг — біржа каштоўных папер – фондавая. Дзейнічае на прынцыпах прыватнага прадпрымальніцтва (Лонданская, Нью-Йоркская) альбо ствараецца дзяржавай (Францыя, Італія).

Товарная биржа — таварная біржа. Уяўляе асацыяцыю гандляроў, якая забяспечвае арганізаваны рынак для куплі і продажу пэўных тавараў, якія могуць быць точна класіфіцыраваны па стандартах якасці.

Валютная биржа — валютная біржа. Рынак валюты.

Биржа труда — біржа працы. Дзяржаўная установа, якая ажыццяўляе пасрэдніцтва паміж прадпрымальнікамі і работнікамі пры найме рабочай сілы.

Биржевая котировка — біржавая каціроўка. Курсы каштоўных папер ці цэны тавараў біржавага гандлю, рэгістрыруемыя і публікуемыя каціравальнай камісіяй біржы.

Биржевая цена — біржавая цана. Цана на тавары і паслугі, рэалізуемыя у парадку біржавага гандлю, якая складваецца на аснове суадносін попыту і прапановы.

Биржевые сделки — біржавыя здзелкі. Гандлёвыя здзелкі на біржы з каштоўнымі паперамі, таварамі ці замежнай валютай. Падраздзяляюцца на два асноўных тыпы: касавыя, пры якіх грошы уключваюцца адразу, і тэрміновыя, калі каштоўныя паперы ці тавары павінны быць перададзены адразу пасля завяршэння здзелкі, а грошы выплочваюцца праз пэўны тэрмін (звычайна у межах месяца).

Благосостояние — дабрабыт. Забяспечанасць насельніцтва неабходнымі для жыцця матэрыяльнымі і духоўнымі выгодамі.

Блокада экономическая — блакада эканамічная. Эканамічная ізаляцыя дзяржавы з мэтай падарваць яе эканоміку шляхам спынення ўвозу ў краіну сыравіны і гатовых тавараў і пазбаўлення яе рынкаў збыту.

Богатство общественное — багацце грамадскае. Сукупнасць

спажывецкіх вартасцей, створаных грамадствам за увесь перыяд яго вытворчай дзейнасці.

Бойкот экономический — байкот эканамічны. Поўная або частковая адмова ад эканамічных сувязей з якой-небудзь асобай, арганізацыяй або дзяржавай.

Бреттонвудское соглашение — Брэттанвудскае пагадненне. Пагадненне, якое уключае праекты дагавораў аб стварэнні Міжнароднага валютнага фонду і Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця, узгодненыя прадстаўнікамі 44 краін на валютна-фінансавай Канферэнцыі ААН (адбылася ў Брэттон-Вудсе (ЗША) I-29 жніўня I944).

Брокер — брокер. Асоба, якая дзейнічае ў якасці пасрэдніка пры здзяйсненні куплі-продажу акцый, аблігацый, нерухомасці. Ён дапамагае ажыццявіць продаж ці аблягчае ажыццяўленне папярэднічаючых ёй ці наступных за ёй аперацый, якія адбываюцца за кошт сродкаў кліентаў.

Брокеридж — брокерыдж. Узнагарода, якую атрымлівае брокер. Яна можа устанаўлівацца ў выглядзе працэнта ад кошту здзелкі (напрыклад, пры продажу каштоўных папер) ці пэўнай сумы, якая выплочваецца за партыю груза.

Бросовый экспорт — стратны экспарт. Продаж тавараў манапаліямі, фірмамі, не звязанымі з вытворчасцю, або урадавымі арганізацыямі на знешніх рынках па стратных цэнах, г.зн. па цэнах ніжэйшымі за выдаткі вытворчасці.

Бумажные деньги — папяровыя грошы. Наймінавальныя знакі вартасці, якія маюць прымусовы курс і выпускаюцца дзяржавай для пакрыцця сваіх расходаў.

Буржуазия — буржуазія. Пануючы клас капіталістычнага грамадства, які з'яўляецца ўласнікам сродкаў вытворчасці і існуе за кошт эксплуатацыі наёмнай працы.

Бухгалтерский баланс — бухгалтарскі баланс. Спосаб адлюстравання сродкаў гаспадарчых арганізацый, прадпрыемстваў, бюджэтных устаноў, грамадскіх арганізацый у двух групоўках - па іх размяшчэнню і па іх крыніцах.

Бухгалтерский учёт — бухгалтарскі ўлік. Суцэльны, беспярэрыўны, дакументальна абгрунтаваны ўлік сродкаў гаспадарчых прадпрыемстваў і іх вынікаў, разліковых, крэдытных і фінансавых адно-



сін прадпрыемстваў.

Бюджет — бюджэт. Баланс грашовых даходаў (паступленняў) і расходаў (выкарыстанняў), якія складаюцца для дзяржавы, мясцовых органаў кіравання, прадпрыемстваў, устаноў, сямей альбо асобы на пэўны тэрмін.

Бюджет потребительский — бюджэт спажывецкі. Баланс даходаў і расходаў сям'і, які характарызуе узровень жыцця розных груп сямей працоўных.

Бюджетное финансирование — бюджэтнае фінансаванне. Дармовае прадастаўленне бюджэтных сродкаў прадпрыемствам і арганізацыям на ажыццяўленне іх дзейнасці. Ва умовах рыначнай эканомікі ў значнай ступені уступае месца самафінансаванню. У той жа час з'яўляецца неабходным сродкам развіцця і падтрымкі навукі, культуры, адукацыі, аховы здароўя, а таксама асобных прадпрыемстваў, галін, рэгіёнаў.

## В

Валовая продукция — валавая прадукцыя. Статыстычны паказчык, які характарызуе аб'ём прадукцыі народнай гаспадаркі, сфер і галін эканомікі, прамысловых, сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у грашовым выражэнні.

Валовой национальный продукт — валавы нацыянальны прадукт. Вартасць тавараў і паслуг, створаных нацыянальнай эканомікай на працягу года і вызначаных для канчатковага спажывання. Ахоплівае спажывецкія тавары, валавыя прыватныя інвестыцыі, урадавыя закупкі тавараў і паслуг. У адрозненні ад сукупнага грамадскага прадукта не уключае паўторны ўлік кошту сыравіны, матэрыялаў і паўфабрыкатаў.

Валюта — валюта. I. Грашовая адзінка краіны (савецкі рубель, англійскі фунт стэрлінгаў, долар ЗША) і яе тып (залатая, срэбная, бумажная). 2. Грашовыя знакі замежных дзяржаў, а таксама крэдытныя сродкі абарачэння і плацяжу, выражаныя ў замежных грашовых адзінках (вэксель, чэк і г.д.), якімі карыстаюцца ў міжнародных разліках (міжнародная валюта).

Валюта резервная — валюта рэзервная. Нацыянальныя (долар, фунт стэрлінгаў) і калектыўныя (экю, СПЗ) валюты, выкарыстоўваемыя

краінамі для урэгулявання запазычанасці на іх міжнародных рахунках ці у якасці рэзерва для нацыянальных валют.

Валютная система — валютная сістэма. Форма арганізацыі грашовых адносін, якая вызначаецца ступенню развіцця таварнай вытворчасці.

Валютный контроль — валютны кантроль. Дзяржаўнае рэгуляванне куплі продажу замежнай валюты.

Валютный кризис — валютны крызіс. Крызіс грашова-крэдытнай сістэмы капіталізму, які выражаецца у крушэнні залатога стандарту, пераходу да інфляцыйнага папярова-грашовага абарачэння, які ахоплівае як сферу унутранага абарачэння асобных капіталістычных краін, так і міжнародныя разлікі.

Валютный курс, вексельный курс — валютны курс, вэксальны курс. Кошт грашовай адзінкі адной краіны, выражаны у грашовых адзінках іншай краіны.

Вексель — вэксаль. Вэксаль - асобы від пісьмовага даўгавога абавязацельства, складзенага у прадпісанай законам форме, якое дае яго уладальніку бясспрэчнае права патрабаваць пры сканчэнні тэрміну з асобы, якая выдае абавязацельства, выплаты, абазначанай у ім грашовай сумы.

Вертикальная интеграция — вертыкальная інтэграцыя. Новы тып вытворчых прадпрыемстваў: аграрна-прамысловых і аграрна-прамыслова-гандлёвых аб'яднанняў, створаных харчовымі, камбікормавымі і гандлёвымі фірмамі або буйнымі сельскагаспадарчымі кааперативамі.

Вертикальная концентрация — вертыкальная канцэнтрацыя. Адна з падрыхтоўчых ступеней камбінавання, якая прадугледжвае працэс сканцэнтроўвання у рамках адной арганізацыі паслядоўных стадый вытворчасці, якія узаемна дапаўняюць адна другую: ад здабычы сыравіны да размеркавання гатовай прадукцыі.

Вклады — уклады. Грашовыя сродкі прадпрыемстваў, арганізацый і насельніцтва, якія знаходзяцца на зберажэнні у крэдытных установах. Эканамічная прырода укладаў залежыць ад характару эканамічнага ладу грамадства.

Внерабочее время — нерабочы час. Час, не заняты выкананнем грамадска карыснай працы на вытворчасці.



Внешняя торговля — знешні гандаль. Гандаль паміж краінамі, які складаецца з увоза (імпарту) і вывазу (экспарту) тавараў.

Внеэкономическое принуждение — пазаэканамічнае прымушэнне. Форма прымушэння да працы, заснаваная на адносінах непасрэднага панавання і падпарадкавання, на асабістай залежнасці працоўных ад эксплуатататараў. Пазаэканамічнае прымушэнне не характэрна для рабаўладання і феадалізму.

Внутренний рынок — унутраны рынак. Сістэма эканамічных зносін для абмену таварамі пры рэалізацыі сукупнага грамадскага прадукта у межах нацыянальнай эканомікі.

Внутриотраслевая конкуренция — унутрыгаліновая канкурэнцыя. Спецыфічная форма саперніцтва паміж асобнымі таваравытворцамі, прадпрыемствамі, акцыянернымі кампаніямі, саюзамі, занятымі у адной і той самай галіне народнай гаспадаркі.

"Военный коммунизм" — "Ваенны камунізм". Эканамічная палітыка савецкай дзяржавы у перыяд грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі 1918-1920 гг.

## Г

Гибкие автоматизированные производства (ГАП) — гібкія аутаматызаваныя вытворчасці (ГАВ). Аутаматызаваныя тэхналагічныя сістэмы, якія уключаюць станкі з лікавым праграмным кіраваннем, перапрацоучыя цэнтры, аутаматычныя склады, об'яднаныя з міні - ЭВМ, забяспечаныя пэуным наборам упраўляючых праграм і забяспечваючыя аўтаматызацыю многанаменклатурнай машынабудаўнічай вытворчасці.

Государственно-монополистический капитализм — дзяржаўна-манапалістычны капіталізм. Сучасны манапалістычны капіталізм, для якога характэрна спалучэнне сілы прыватных манаполій з сілаю буржуазнай дзяржавы.

Государственное предпринимательство — дзяржаўнае прадпрымальніцтва. Дзейнасць дзяржаўных прадпрыемстваў, якія ствараюць тавары і паслугі, неабходныя для развіцця нацыянальнай эканомікі. Ажыццяўляецца не толькі на камерцыйнай аснове, але і на спалучэнні камерцыйных і некамерцыйных асноў. У СНГ дзяржаўнае прадпрымальніцтва іграе значную ролю. У перспектыве, па меры раздзяржаўлення (прыватызацыі) уласнасці, развіцця дробнай і сярэдняй вытворчасці,

рыначнай інфраструктуры, станаўленне фермерскіх гаспадарак пры адпаведным праваВым забеспячэнні і фінансавай падтрымцы будуць умацоўвацца недзяржаўныя сектары эканомікі, зменшыцца доля дзяржаўнага прадпрымальніцтва.

Государственное регулирование экономики — дзяржаўнае рэгуляванне эканомікі. Уздзеянне дзяржавы на дзейнасць гаспадарнічаючых суб'ектаў і рыначную кан'юнктуру з мэтаю забеспячэння нармальных умоў для функцыяніравання рыначнага механізму, рашэння экалагічных і сацыяльных праблем. Існуе ў розных формах: бюджэтна-налогавае, крэдытна-грашовае, адміністрацыйнае.

Государство — дзяржава. Публічная ўлада, якая кіруе асноўнымі сферамі грамадскага жыцця і абапіраецца ў выпадку неабходнасці на сілу прымусу. Адначасова гэта - эканамічны цэнтр краіны.

## Д

Девальвация — дэвальвацыя. Паніжэнне ў заканадаўчым парадку залатога забеспячэння грашовай валюты. Адваротны дэвальвацыі працэс (г.зн. павышэнне залатога забеспячэння грашовай валюты) называецца рэвальвацыяй.

Демпинг — дэмпінг. І. Продаж тавараў па нізкіх цэнах з мэтаю пазбавіцца ад лішкаў тавара - матэрыяльных запасаў ці захопу рынку збыта. 2. Продаж тавараў за мяжой па цэнах ніжэй выдаткаў вытворчасці.

Демонополизация — дэманапалізацыя. Палітыка дзяржавы, накіраваная на развіццё канкурэнцыі і стрыманне манапольнага ціску на рынак. Ажыццяўляецца з дапамогаю заканадаўчых мер, накіраваных на забеспячэнне плюралізма розных форм уласнасці, павялічэння колькасці вытворцаў, устаранення прывілегіі і перашкод для канкурэнцыі.

Денежная система — грашовая сістэма. Функцыянаванне грошай у дзяржаве, якое уключае: чэканку манет, эмісію грошай, манетарныя рэзервы, узаконеныя плацёжныя сродкі, рэгуляванне пакупніцкай здольнасці бумажных грошай і манет.

Денежное обращение — грашовы абарот (грашовае абарачэнне). Бесперапынны рух грошай у працэсе аплаты працы, продажы тавараў, разлікаў за паслугі, учыненне другіх плацяжоў.



Денежные доходы населения — грашовыя даходы насельніцтва. Сумы грошай, якія атрымоўвае і акумулюе насельніцтва, аснова рэальных даходаў насельніцтва.

Деньги — грошы. Асобны тавар, які выконвае ролю ўсеагульнага эквівалента пры абмене тавараў. Грошы выконваюць наступныя функцыі: мера вартасці, сродак абарачэння, сродак утварэння скарбаў і накаплення, сродак плацяжу , сусветныя грошы.

Дефицит — дэфіцыт. Няхватка, недахоп матэрыяльных, працоўных і фінансавых рэсурсаў, тавараў масавага спажывання. Дэфіцыт у эканоміцы - гэта агульнае праяўленне яе незбалансаванасці.

Дефляция — дэфляцыя. Падзенне агульнага ўзроўню цэн альбо павялічэнне пакупніцкай здольнасці грошай. Узнікае ў выніку альбо росту вытворчасці працы і зніжэння вартасці тавараў, альбо абмежавання колькасці грошай у абарачэнні, а таксама ў выніку змяншэння сукупнага попыту.

Диверсификация — дыверсіфікацыя. І. Інвесціраванне грошай у розныя віды каштоўных папер, у розныя раёны і галіны з мэтаю мінімізацыі рызыкі. 2. Стварэнне шматгаліновых кампаній, якія апроч вытворчасці (часта тэхналагічна не звязанай) і рэалізацыі разнастайных тавараў, займаюцца фінансавымі аперацыямі.

Дивидент — дывідэнт. Штогод выплачваемы даход на акцыю. Яго велічыня на звычайныя акцыі не фіксуецца і залежыць ад вынікаў дзейнасці карпарацыі, на прывілегіраваныя акцыі вызначаецца раней і не залежыць ад яе бягучых даходаў.

Долг — доўг. Грашовая сума, якая ўзята ў пазыку (на тэрмін і на пэўных умовах). Бягучы доўг прадстаўлены кароткатэрміновымі абавязацельствамі. Кансалідаваны доўг: І) юрыдычнае афармленне пагаднення паміж пазычальнікам і крэдыторамі, звычайна прадугледжвае некаторыя гарантыі выплаты доўгу; 2) узнікаючы ў выніку выпуску доўгатэрміновых каштоўных папер, выручка ад чаго ідзе на пагашэнне эмісіі кароткатэрміновых каштоўных папер. Публічны доўг - сукупны дзяржаўны доўг краіны (у адрозненне ад даўгоў прыватных асоб, карпарацый).

Унутраны дзяржаўны доўг - сума грашовых сродкаў, атрыманых ад выпушчаных, але яшчэ не пагашаных дзяржаўных займаў, з'яўляецца вынікам унутранага дзяржаўнага крэдыту.

Пры атрыманні міжнароднага дзяржаўнага крэдыту ўзнікае знешні доўг.

Дуаполия — дуаполія. Сітуацыя на рынку, калі існуе толькі два вытворцы, якія прапануюць ідэнтычную прадукцыю. Выкарыстоўваецца таксама тэрмін "частковая манаполія".

Дотация — датацыя. Бязвыплатная фінансавая дапамога з мэтаю кампенсацыі павышаных выдаткаў, страт, забеспячэння прыбытку стратным прадпрыемствам, пагашэння цэнавых розніц (напрыклад, паміж аптовымі і рознічнымі цэнамі). З'яўляецца неад'емным элементам узнаўлення ў адміністрацыйна-кіруемай эканоміцы. У рыначнай эканоміцы памеры і напрамкі датацый рэзка зніжаюцца і абмяжоўваюцца.

Доходы — даходы. Каштоўнасці, якія ствараюцца і атрымліваюцца грамадствам, асобамі ад якога-небудзь роду дзейнасці, існуюць першасныя і другасныя даходы. Першасныя даходы ствараюцца ў матэрыяльнай вытворчасці, у працэсе стварэння нацыянальнага даходу. Другасныя атрымоўваюцца за кошт пераразмеркавання нацыянальнага даходу.

Дуопсония — дуапсонія. Сітуацыя на рынку, калі ў наяўнасці толькі два пакупнікі ідэнтычнай прадукцыі, якая прапануецца шматлікімі вытворцамі.

## Е

Евровалютний рынок — Еўравалютны рынак. Міжнародны рынак кароткатэрміновых і сярэднетэрміновых крэдытаў. Ён засноўваецца на крэдытных аперацыях, якія выконваюцца з нацыянальнай валютай за межамі краіны яе паходжання. "Еўра" не азначае, што рынак абмежаваны рамкамі Заходняй Еўропы, а сведчыць аб тым, што валюта (долар, марка, іена) знаходзяцца на рахунках замежных банкаў, якія выкарыстоўваюць яе з мэтаю выдачы крэдытаў.

Еврооблигация — Еўрааблігацыя. Каштоўная папера, якая прыносіць працэнты. Суб'екты (пасрэднікі і пакупнікі), якія яе выпускаюць, не з'яўляюцца рэзідэнтамі краіны, валюта якой выкарыстоўваецца пры эмісіі. Часта еўрааблігацыі выпускаюцца ў двухвалютным варыянце: у адной валюце з правам канверсіі ў другую. Пры эмісіі еўрааблігацый прымяняюцца і калектыўныя валюты – СПЗ, ЭКЮ.

Европейское экономическое сообщество (ЕС, "Общий рынок") — Еўрапейскае эканамічнае супольніцтва (ЕС, "Агульны рынак"). Дзяржаўна-манапалістычнае аб'яднанне еўрапейскіх краін, якое узнікла ў 1957 годзе, як аб'яднанне заходнееўрапейскіх краін у выніку эканамічнай інтэграцыі. ЕС паспяхова рашае задачу стварэння поўнасцю інтэграванага унутранага еўрапейскага рынку.



Займы государственные — пазыка дзяржаўная. Форма крэдытных зносін, у якіх пазыкатрымальнікам выступае дзяржава.

Закон возвышения потребностей — закон павялічэння патрэбнасцей. Выражае прычынна-выніковыя сувязі паміж развіццём прадукцыйных сіл, пашырэннем грамадскага ўзнаўлення з аднаго боку, і павялічэннем патрэб грамадскага індывіда – з другога. З развіццём грамадскай вытворчасці павышаецца ступень задавальнення патрэб людзей, тым самым паскараецца і працэс узнаўлення гэтых патрэб.

Закон опережающего роста производства средств производства — закон апераджаючага росту вытворчасці. Выражае сувязі паміж развіццём машыннай вытворчасці прадметаў спажывання і развіццём вытворчасці саміх машын. У паскораным развіцці вытворчасці машын з мэтаю стварэння машын знаходзіць сваё ўвасабленне нішто іншае, як навукова-тэхнічны прагрэс.

Закон планомерного развития народного хозяйства — закон планамернага развіцця народнай гаспадаркі. Эканамічны закон сацыялізму, які выражае аб'ектыўную неабходнасць узгодненага вядзення эканомікі як адзінага цэлага, у інтарэсах хуткага развіцця вытворчасці на аснове навукова-тэхнічнага прагрэсу, павышэння яго эфектыўнасці і росту ўзроўня жыцця ўсіх членаў грамадства.

Закон распределения по труду — закон размеркавання па працы. Выражае прычынна-выніковую сувязь паміж колькасцю грамадска неабходнай працы, якая затрачваецца працаздольным членам сацыялістычнага грамадства і доляй атрымліваемых ім прадметаў асабістага спажывання.

Закон соответствия производственных отношений характеру и уровню развития производительных сил — закон адпаведнасці вытворчых адносін характару і ўзроўню развіцця прадукцыйных сіл. Выражае прычынна-выніковую сувязь паміж прадукцыйнымі сіламі і вытворчымі адносінамі, як сувязь паміж зместам і формаю грамадскага ладу вытворчасці.

Закон стоимости — закон вартасці. Аб'ектыўны эканамічны закон, які рэгулюе сувязі паміж таваравытворцамі, размеркаванне і стымуляванне грамадскай працы ва ўмовах таварнай вытворчасці. Згод-

на гэтаму закону, вытворчасць і абмен тавараў ажыццяўляюцца на аснове іх вартасці, велічыня якой вымераецца грамадска неабходнымі затратамі працы.

Заработная плата — заработная плата. Форма матэрыяльнай платы за працу, частка вартасці створанай і рэалізаванай прадукцыі (паслуг), якая паступае работнікам прадпрыемстваў і устаноў.

Землевладение — землеўладанне. Валоданне пэўным участкам зямлі якой-небудзь фізічнай альбо юрыдычнай асобай на аснове права уласнасці. Такое валоданне абумоўлівае адпаведныя эканамічныя функцыі, правы і абавязкі.

Землепользование — землекарыстанне. Устаноўлены законам ці традыцыямі парадак выкарыстання зямлі як сродка вытворчасці.

Земельная рента — зямельная рэнта. Даход, не звязаны з прадпрымальніцкай дзейнасцю, якія ўяўляе сабою частку дадатковага прадукта, што ствараецца вытворцамі, якія гаспадарнічаюць на зямлі. Рэгулярна прысвойваецца уласнікамі зямлі. Рэнта выступае як форма эканамічнай рэалізацыі уласнасці на зямлю (і яе прыродныя рэсурсы).

Золотой запас, золотое обеспечение — залаты запас, залатое забеспячэнне. Рэзерв золата ў злітках і манетах, які належыць цэнтральнаму эмісійнаму банку ці казначэйству краіны. Запас золата прызначаны для пакрыцця эмісіі банкнот, для закупкі валюты ці для пакрыцця бягучых (текущих счетов) рахункаў, для іншых абавязацельстваў дзяржавы. Пад уплывам змен у эканамічным становішчы, у дзейнасці залатадабываючай прамысловасці, гэты запас папаўняецца альбо вычэрпваецца. Купля-продажа буйных партый золата ажыццяўляецца на спецыялізаваных сусветных рынках.

И - I

Издержки производства — выдаткі вытворчасці. Сума затрат на вытворчасць тавара (прадукта, паслугі). Стварае унутраную вартасць (для вытворцы) і таму служыць асновай для вызначэння выходнай продажнай цаны - цаны попыту.

Империализм — імперыялізм. Манапалістычны капіталізм. Самай глыбокай асновай імперыялізма з'яўляецца манаполія. Яна змяніла свабодную канкурэнцыю, але не знішчыла яе, а зрабіла больш складанай і разбуральнай.



Импорт — імпарт. Увоз замежных тавараў, капіталаў і паслуг на унутраны рынак краіны. Імпарт і экспарт складаюць аб'ём (абарот) знешняга гандлю краіны.

Инвестиция — інвестыцыя. Доўгатэрміновы уклад капіталу (унутры краіны ці за мяжой) у прадпрыемствы розных галін народнай гаспадаркі. Прыватныя інвестыцыі поўнасцю сканцэнтраваны на задачы атрымання прыбытку, дзяржаўныя могуць ажыццяўляцца таксама і з мэтай рэгулявання развіцця эканомікі.

Индекс — індэкс. Адносны паказчык росту (прыросту) ці зніжэння асобных альбо агрэгіраваных эканамічных параметраў, які выкарыстоўваецца з мэтай статыстычнага вывучэння стану эканомікі і яе дынамікі.

Инжиниринг — інжынірынг. Сукупнасць інжынерных паслуг, якія аказваюцца кліенту. У іх звычайна уваходзяць праектаванне, прадастаўленне ліцэнзіі і "ноу-хау", пусканаладачных работ. Можа уключаць падрыхтоўку кадраў, а іншы раз і будаўнічыя паслугі.

Интеграция — інтэграцыя. Аб'ектыўная гістарычная тэндэнцыя (імкненне) народаў да збліжэння. Галоўным рухавіком інтэграцыі выступае інтэрнацыяналізацыя прадукцыйных сіл, пашырэнне міжнароднага характару вытворчасці.

Интенсификация — інтэнсіфікацыя. Развіццё вытворчасці з дапамогай дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу (больш эфектыўных сродкаў вытворчасці, больш дасканалых тэхналогій і арганізацыі працы). Сутнасць інтэнсіфікацыі заключаецца у тым, што у выніку аптымальнага выкарыстання вытворчых рэсурсаў (рабочай сілы, сродкаў працы, сыравіны і матэрыялаў) можна атрымаць больш прадукцыі, павялічыць вытворчасць працы.

Инфляция — інфляцыя. Рост цэн, абумоўлены празмерным павялічэннем колькасці абарачаемых у краіне бумажных грошай, звыш патрэб гаспадарчага абароту.

Инфраструктура — інфраструктура. Сукупнасць галін народнай гаспадаркі, абслугоўваючых асноўную вытворчасць і насельніцтва. Інфраструктура стварае умовы для бесперапыннай вытворчасці, забяспечвае яе неабходнай рабочай сілай.







К

Казна — казна. I. Сховішча грошай, скарбаў і іншых матэрыяльных каштоўнасцей. 2. Дзяржава як суб'ект установленых маёмасных праў і інтарэсаў, абмежаваных заканадаўствам ад маёмасці і інтарэсаў прыватных асоб, арганізацый і аб'яднанняў.

Казначейская эмиссия — казначэйская эмісія. Выпуск у абарот папяровых грошай, якія ажыццяўляюцца казначэйствам.

Казначейские билеты — казначэйскія білеты. Неразменныя папяровыя грошы, якія выпускае казначэйства, а таксама кароткатэрміновыя абавязацельствы казначэйства, што знаходзяцца ў абароце.

Казначейство — казначэйства. Спецыялізаваны фінансавы орган (тыповы прыклад - міністэрства фінансаў), які ведае выкананнем дзяржаўнага бюджэта. Казначэйства арганізуе збор даходаў дзяржбюджэта (падаткаў, пошлін, пазык і др.), прадастаўляе сродкі на прадугледжаныя ў ім расходы, у некаторых выпадках ажыццяўляе эмісію папяровых грошай, якая нярэдка носіць інфляцыйны характар. Дзяржава прыбягае да эмісіі, як правіла, у крытычныя перыяды, калі даходы яе бюджэта не пакрываюць расходаў.

Капитал авансированный - капітал авансаваны. Грашовая сума, якая затрачваецца капіталістам на закупку сродкаў вытворчасці і рабочай сілы з мэтай атрымання прыбытку.

Капитализация — капіталізацыя. I. Перэтварэнне дадатковай вартасці ў капітал, г.зн. выкарыстанне яе на пашырэнне капіталістычнага прадпрыемства. 2. Працэс утварэння фіктыўнага капіталу.

Капиталоёмкость — капіталаёмкасць. Паказчык, які характарызуе адносіны асноўнага капіталу да выраблена́й у адпаведны перыяд прадукцыі або да яе часткі - нацыянальнага даходу, чыстаму даходу, прыбытку.

Капиталоотдача — капіталааддача. Паказчык, які характарызуе эфектыўнасць выкарыстання капітальных укладанняў.

Качество труда — якасць працы. Ступень складанасці, напружанасці, народна-гаспадарчай значнасці працы.

Квалифицированный труд - кваліфікаваная праца. Праца тых, хто атрымаў спецыяльную прафесійную падрыхтоўку, хто валодае неабходнымі ведамі, уменнем для выканання пэўных відаў работ.



Квота — квота. Доля паказчыка ў агульным аб'ёме даследуемага працэсу. Напрыклад: імпартная квота - доля тавараў і паслуг, якой абмяжоўваецца іх увоз з той ці другой краіны.

Классическая буржуазная политическая экономия — класічная буржуазная палітычная эканомія. Напрамак буржуазна-эканамічнай думкі. Яе роданачальнікам у Вялікабрытаніі бну У.Пецці, у Францыі - П.Буагільбер. Найбольш яркія яе прадстаўнікі - А.Сміт і Д.Рыкардо.

Клиринг — кліринг. I. Пагадненне паміж краінамі аб куплі і продажу тавараў і паслуг з безнаяўнымі разлікамі ў адпаведнасці з пэўнымі валютнымі курсамі. 2. Мясцовае, нацыянальнае ці міжнароднае пагадненне, якое заключаюць банкі аб узаемным пагашэнні запазычанасці кліентаў і урэгуляванні дэфіцытаў грашовых балансаў.

Количество труда — колькасць працы. Маса жывой працы (мускульнай, нервовай энергіі), якая выкарыстана ў працэсе працоўнай дзейнасці чалавека.

Колонат — каланат. Сістэма эканамічных адносін, якія склаліся ў Рымскай Імперыі на аснове дробнай зямельнай рэнты.

Колониализм коллективный — каланіялізм калектыўны. Адна з форм праяўлення каланіялізму, характэрная пераважна для перыяду распаду каланіяльнай сістэмы імперыялізму.

Колониальная политика — каланіяльная палітыка. Палітыка капіталістычных дзяржаў, накіраваная на захоп і эксплуатацыю калоній, эканамічнае падпарадкаванне менш развітых краін.

Колхоз — калгас. Калектыўная гаспадарка, кааператыўная вытворчасць, сельскагаспадарчае прадпрыемства ў СССР, а потым у СНГ.

Компания — кампанія (таварыства). Асацыяцыя асоб, якая ствараецца з мэтаю камерцыйнай ці прамысловай дзейнасці. Яна можа функцыяніраваць на прынцыпах партнёрства, карпарацыі, прымаць другія формы дзелавой арганізацыі. Партнёрства - форма дзелавой арганізацыі, якая ствараецца шляхам кантракта паміж двума ці болей індывідуамамі, кожны з якіх нясе поўную асабістую адказнасць за даўгі таварыства. Таварыства з абмежаванай адказнасцю - пераходная форма ад партнёрства да карпарацыі. Яго удзельнікі маюць абмежаваную адказнасць за даўгі кампаніі (у размерах укладзенага капіталу).

Коммерческий расчет — камерцыйны разлік. Метад гаспадарання шляхам вымярэння ў вартаснай форме затрат працы ў выніку гаспадарчай дзейнасці.

Комплексная механизация и автоматизация производства – комплексная механізацыя і аўтаматызацыя прадпрыемства. Працэс узаемазвязанага па тэхналогіі і функцыянальных звенах вытворчасці рашэння механічных, арганізацыйных, планава-эканамічных задач па замяшчэнню ручной працы машынамі і паступовае звядзенне вытворчай працы да функцыі па назіранню за працай і пераналадцы машын з праграмным кіраваннем, якія самарэгулююцца.

Конверсия займов — канверсія пазык. Змяненне першапачатковых умоў дзяржаўных пазык, якія выражаюцца у паніжэнні працэнта, змяненні тэрміну дзеяння і спосабу пагашэння пазык і г.д.

Конечная продукция — канчатковая прадукцыя. Створаная за вызначаны перыяд прадукцыя таго або іншага вытворчага звяна, якая не паступае ў непасрэднае вытворчае спажыванне ў рамках дадзенага звяна.

Конечный общественный продукт — канчатковы грамадскі прадукт. Сума выраблених у краіне за вызначаны перыяд часу матэрыяльных даброт, якія не паступаюць у дадзены перыяд у вытворчае спажыванне.

Консорциум — кансорцыум. Часовае пагадненне паміж некалькімі банкамі ці прамысловымі кампаніямі для сумеснага размяшчэння пазыкі ці ажыццяўлення адзінага капіталаёмкага прамысловага праекта.

Контракт — кантракт. Юрыдычнае абавязковае пагадненне паміж двума і болей удзельнікамі, у якім вызначаны іх неабходныя дзеянні і адказнасць за выкананне апошніх.

Контрольный пакет акций — кантрольны пакет акцый. Колькасць акцый, якія фактычна забяспечваюць іх уладальніку кантроль над кампаніяй (таварыствам). Тэарэтычна ён павінен быць роўны 51% акцый. Але на практыцы гэтая лічба меншая, бо ажыццяўляецца распыленне акцый паміж многімі акцыянерамі.

Концентрация капитала — канцэнтрацыя капіталу. Павелічэнне капіталу ў выніку капіталізацыі часткі дадатковай вартасці.



Концессия — канцэсія. Дагавор на здачу ў эксплуатацыю на вызначаных умовах нетраў і участкаў зямлі, прадпрыемстваў і іншых гаспадарчых аб'ектаў, якія належаць дзяржаве, муніцыпалітэтам.

Кооперативная собственность — кааператыўная уласнасць. Калектыўная уласнасць кааператараў, іх аб'яднанняў, якая узнікае на аснове добраахвотнага абагульнення іх членамі усіх або часткі сродкаў вытворчасці, што належыць ім, а таксама грашовых узносаў з наступным яе развіццём за кошт унутраных назапашванняў у выніку дзейнасці гэтых кааператараў.

Кооперативное движение — кааператыўны рух. Сукупнасць эканамічных, грамадска-палітычных адносін, сацыяльнай, культурна-асветніцкай дзейнасці, звязаных з развіццём і функцыяніраваннем кааператыўных арганізацый.

Кооперация — кааперацыя. 1. Форма арганізацыі працы, пры якой значная колькасць людзей сумесна удзельнічае ў адным і тым жа або розных, але звязаных паміж сабой працэсах працы. 2. Арганізацыйна аформленыя, самадзейныя добраахвотныя калектыўныя аб'яднанні працоўных, служачых, дробных вытворцаў, створаныя для дасягнення агульнай мэты ў розных галінах эканамічнай дзейнасці.

Кредит — крэдыт. Прадастаўленне грошай або тавараў у доўг (карыстанне на тэрмін на ўмовах звароту) як правіла з выплатай працэнта.

Кредитная система — крэдытная сістэма. Сукупнасць крэдытных адносін і крэдытных устаноў той ці іншай краіны, якія іх абслугоўваюць.

Кредит банковский — крэдыт банкаўскі. Форма крэдыта, пры якой банк дымантуе (димонтирует) вэксалі кліента, заводзіць яму (расчетный счёт) разлік, на які змяшчаецца кошт дымантаванага (димонтированного) вэксаля. Пры чэкавым крэдыце банк дае кліенту доўг суму, у межах якой кліент можа выпісваць чэкі для ажыццяўлення плацяжоў. У устаноўлены час запазычанасць павінна пагашацца.

Кредит долгосрочный — крэдыт доўгатэрміновы. Крэдыт, дадзены на працяглыя тэрміны (больш года), які абслугоўвае галоўным чынам расшыранае ўзнаўленне асноўнага капіталу (пры капіталізме) і асноўных фондаў (пры сацыялізме).

Кредит коммунальный — крэдыт камунальны. Крэдыт, дадзены на

патрэбы развіцця камунальнай гаспадаркі і жылёвага будаўніцтва.

Кредит краткосрочный — крэдыт кароткатэрміновы. Крэдыт, які абслугоўвае кругаабарот капіталу (пры капіталізме) або кругаабарот абаротных сродкаў (пры сацыялізме) і даецца, як правіла, на тэрмін не больш І года.

Кредит потребительский — крэдыт спажывецкі. Крэдыт, дадзены насельніцтву для куплі спажывецкіх тавараў ці аплаты бытавых паслуг.

Кредит сельскохозяйственный – крэдыт сельскагаспадарчы. Від крэдыту, дадзены для развіцця сельскай гаспадаркі.

Кредитная блокада — крэдытная блакада. Адмаўленне асобных капіталістычных дзяржаў або іх міжнародных фінансавых устаноў даць крэдыты той ці іншай краіне або групе краін.

Кредитная дискриминация — крэдытная дыскрымінацыя. Прымяненне банкамі капіталістычных краін больш жорсткіх умоў крэдытавання ў адносінах да адных катэгорый пазычальнікаў у параўнанні з іншымі.

Кредитная карточка — крэдытная картка. Дакумент, які сведчыць аб праве асобы, якая ім валодае, на крэдыт. Фінансавыя кампаніі звычайна выпускаюць крэдытныя карткі за поўную плату і штомесяц прад'яўляюць уладальнікам крэдытных картак кансалідаваныя рахункі для аплаты.

Кредитная политика — крэдытная палітыка. Сістэма мерапрыемстваў у крэдытна-грашовай сферы, якая ажыццяўляецца цэнтральнымі банкамі і дзяржавай і якая накіравана на дасягненне вызначаных эканамічных і палітычных мэт пануючага класа.

Кредитные реформы — крэдытныя рэформы. Сукупнасць дзяржаўных актаў, накіраваных на замяненне форм крэдыту, якія выконваюць функцыі сродкаў абароту і сродкаў плацяжу.

Крепостная зависимость — прыгонная залежнасць. Асабовая залежнасць сялян ад феадала, абумоўленая феадальным спосабам вытворчасці.

Крепостная мануфактура — прыгонная мануфактура. Мануфактура, заснаваная на эксплуатацыі прыгоннай працы ў розных яе формах.

Крепостная система хозяйства — прыгонная сістэма гаспадаркі. Сістэма эканамічных адносін, заснаваная на буйнай феадальнай зя-



мельнай уласнасці і асабістая залежнасць асноўных вытворцаў – сялян, абавязаных выконваць феадальныя павіннасці на карысць гаспадара-землеўладальніка і царквы.

Крепостничество — прыгонніцтва. Грамадскі лад, заснаваны на панаванні прыгоннага права.

Крестьянский двор — сялянскі двор. Сямейна-працоўнае аб'яднанне асоб, якія разам вядуць с/гаспадарку.

Крестьянство — сялянства. Самы старажытны і шматлікі з грамадска-эканамічных класаў.

Кризис финансовый — крызіс фінансавы. Глыбокі разлад дзяржаўных фінансаў, выкліканы войнамі або іншымі надзвычайнымі эканамічнымі і палітычнымі падзеямі.

Кризисы биржевые — крызісы біржавыя. Рэзкае падзенне курсаў каштоўных папер, асабліва акцый, якія каціруюцца на фондавай біржы і значыць скарачэнне іх эмісіі.

Кризисы денежно-кредитные — крызісы грашова-крэдытныя. Узрушэнне крэдытна-грашовай сістэмы, якая выражана ў рэзкім скарачэнні камерцыйнага і банкаўскага крэдыту, масавай выемцы ўкладаў і краху банкаў, пагоні за наяўнымі грашыма і золатам, падзенні курсаў аблігацый і акцый, рэзкім павышэнні нормы працэнта.

Критерий оптимальности — крытэрый аптымальнасці. Прыкмета, якая дазваляе ўказаць найменшы спосаб рашэння якой-небудзь практычнай задачы.

Кругооборот капитала — кругазварот капіталу. Рух самаўзрастаючай вартасці і абароту, у ходзе якога капітал прымае тры функцыянальныя формы: грашовую, вытворчую і таварную і праходзіць тры стадыі.

Кругооборот фондов — кругазварот фондаў сацыялістычных прадпрыемстваў. Рух фондаў у сферы вытворчасці і абарачэння, вынікам якога з'яўляецца стварэнне новай спажывецкай вартасці і ўзрастанне вартасці.

Купечество — купецтва. Асобы сацыяльны слой, які займаецца гандлем ва ўмовах панавання асабістай уласнасці.

Кустарное производство — саматужная вытворчасць. Пачатковая стадыя развіцця і ніжэйшая форма капіталізму ў прамысловасці.

Л

Лизинг — лізінг. Кантракт аб перадачы пэўных аб'ектаў уласнасці (звычайна сродкаў вытворчасці) у арэнду на пэўны перыяд часу. Чысты лізінг - кантракт, які абавязвае арэндатара плаціць налогі, уносіць страхавыя плацяжы, ажыццяўляць рамонт аб'ектаў, перададзеных у арэнду.

Ликвидный — ліквідны. У дзелавой тэрміналогіі азначае адносную лёгкасць, з якой тыя альбо іншыя актывы могуць быць пераўтвораны у грошы.

Лимитные цены — лімітныя цэны. Верхняя мяжа ўзроўню цаны на вызначаны від прадукцыі.

Личная собственность - асабістая уласнасць. Эканамічныя адносіны, узніклыя па прычыне прысваення членамі грамадства матэрыяльных для задавальнення асабістых патрэб.

Личная уния банков и промышленности — асабістая унія банкаў і прамысловасці. Адна з манапалістычных форм зрашчэння, зліцця банкаўскага і прамысловага капіталаў і утварэння фінансавай алігархіі.

Личная уния монополий и государственной власти — асабістая унія манаполій і дзяржаўнай улады. Пераплячэнне фінансавай і прамысловай алігархіі і дзяржаўнага апарату.

Личное подсобное хозяйство при социализме — асабістая дапаможная (падсобная) гаспадарка пры сацыялізме. Спажывецкая гаспадарка на садова-гаспадарчым участку, заснаваная на асабістай працы.

Лицензия — ліцэнзія. I. Дакумент, які дае яго ўладальніку права займацца тымі відамі дзейнасці, для ўдзелу ў якіх неабходны дазвол афіцыйных асоб ці ўстаноў (дзяржавы). 2. Прадастаўленне ўласнікам вытворцу патэнтаванага прадукта права карыстацца патэнтам.

М

Маклер — маклер (Broker - англ., Makler - нем). Пасрэднік пры заключэнні здзелак на біржы. Ажыццяўляе біржавыя аперацыі за кошт кліентаў, за гэта атрымлівае плату ў выглядзе камісійных. Маклер (брокер) мае спецыяльныя паўнамоцтвы на заключэнне



здзелак і абавязаны дзейнічаць у межах гэтых паўнамоцтваў, у прыватнасці выконваць распараджэнні свайго кліента з нагоды (па поваду) колькасці, якасці, цаны тавараў, якія набываюцца, альбо рэалізуюцца ў кожным канкрэтным выпадку.

Маркетинг — маркецінг. Сістэма комплекснага кіравання распрацоўкай, вытворчасцю і рэалізацыяй прадукцыі, заснаваная на аналізе, прагназаванні і фарміраванні рынкаў збыту. Узнік маркецінг у 20-ыя гады ў ЗША, шырокае распаўсюджванне атрымаў ва ўмовах узрастаючай манапалізацыі рынку.

Материалоёмкость — матэрыялаёмістасць. Колькасць матэрыяльных рэсурсаў (асноўных і дапаможных матэрыялаў, паліва, энергіі), якія расходуюцца на вытворчасць адзінак прадукцыі. Матэрыялаёмістасць выражае долю арэчаўленай працы ў вартасці прадукцыі.

Материально-техническая база — матэрыяльна-тэхнічная база. Сукупнасць рэчыўных элементаў прадукцыйных сіл, а таксама тэхналагічных працэсаў і форм арганізацыі працы. У матэрыяльна-тэхнічную базу уваходзяць сродкі вытворчасці.

Международные экономические организации — міжнародныя эканамічныя арганізацыі. Аб'яднанні дзяржаў або нацыянальных таварыстваў неўрадавага характару, ці асобных грамадзян з мэтай рашэння агульных эканамічных задач.

Межотраслевая кооперация — міжгаліновая кааперацыя. Адзінства, згода сумесных дзеянняў прадпрыемстваў розных галін народнай гаспадаркі. У адрозненні ад галіновай кааперацыі М.К. забяспечвае ва ўмовах узаемасувязі галін найбольшую эфектыўнасць вытворчасці і прадукцыйнасці працы.

Механизация производства — механізацыя вытворчасці. Замена ручной працы машыннай, адзін з галоўных накірункаў навукова-тэхнічнага прагрэсу, які стварае перадумовы для аўтаматызацыі вытворчасці.

Милитаризация экономики — мілітарызацыя эканомікі. Пераключэнне большай часткі гаспадаркі краін на вытворчасць тавараў і паслуг ваеннага прызначэння.

Мировая капиталистическая система хозяйства — сусветная капіталістычная сістэма гаспадаркі. Сукупнасць міжнародных эканамічных адносін імперыялізму, комплекс эканамічных сувязей паміж

нацыянальнымі гаспадаркамі. Склалася ў перыяд пераходу капіталізму да імперыялізму.

Моральный износ основных фондов — маральны знос асноўных фондаў. Паступовая страта сродкамі працы свайго першапачатковага кошту незалежна ад ступені страты імі тэхнічна-вытворчых якасцей.

Мультипликатор — мультыплікатар. Каэфіцыент, які характарызуе сувязь паміж павялічэннем (змяншэннем) інвестыцый і змяненнем велічыні даходу.

## Н

Наёмный труд — наёмная праца. Вытворчыя адносіны, якія ўзнікаюць паміж уладальнікам сродкаў вытворчасці і рабочым, які прадае сваю рабочую сілу на часовае выкарыстанне ў абмен на вартасць, грамадска-неабходную для ўзнаўлення гэтай рабочай сілы.

"Наёмный труд и капитал", произведение К.Маркса — "Наёмная праца і капітал", твор К.Маркса. Прысвечаны аналізу вытворчых адносін буржуазнага грамадства.

Налоги — падаткі. Абавязковыя плацяжы ў дзяржаўны (мясцовы) бюджэт, якія праводзяцца як прыватнымі асобамі, так і прадпрыемствамі. Выступаюць як форма мабілізацыі дзяржаўнай фінансавых рэсурсаў для утрымання дзяржаўнага апарату і аказання паслуг насельніцтву.

Налоговая декларация — падатковая дэкларацыя. Афіцыйная заява плацельшчыка падатку аб атрыманні ім за бягучы перыяд (звычайна квартал, паўгоддзе, год) даходаў і тых налогавых скідках і льготах, якія на іх распаўсюджваюцца. На аснове налогавай дэкларацыі і дзейнічаючых ставак абкладання фінансавыя органы кантралююць велічыню падатку, які вызначаны да аплаты.

Налоговая система — падатковая сістэма. Сукупнасць падаткаў, якія збіраюцца ў дзяржаве, а таксама форм і метадаў іх пабудовы.

Налоговые тарифы — падатковыя тарыфы. Сістэматызаваны пералік ставак, якія выражаюцца ў цвёрдых сумах ці ў працэнтах, па якіх абкладаюцца розныя тавары, прадастаўляемыя паслугі і г.д.

Налогоплательщики — падаткаплацельшчыкі. Юрыдычныя і фізічныя асобы, на якіх заканадаўствам ускладзен абавязак плаціць падаткі.



Народное хозяйство — народная гаспадарка. Сістэма грамадскага аднаўлення, якая гістарычна склалася ў пэўных тэрытарыяльных межах.

Народонаселения закон — народанасельніцтва закон. Спецыфічны закон, які выражае дынаміку працоўнага насельніцтва і характар яго выкарыстання ў працэсе вытворчасці.

Натуральная заработная плата — натуральная заработная плата. Частка заработнай платы, якая выдаецца работніку ў выглядзе прадуктаў, рэчаў ці бясплатных паслуг.

Натуральное хозяйство — натуральная гаспадарка. Тып гаспадаркі, у якой вытворчасць накіравана непасрэдна на задавальненне ўласных патрэб вытворцаў.

Научная организация труда — навуковая арганізацыя працы. Працэс удасканалення арганізацыі працы на аснове дасягненняў навукі.

Научно-техническая революция — навукова-тэхнічная рэвалюцыя. Карэннае пераўтварэнне прадукцыйных сіл на аснове выкарыстання ў матэрыяльнай вытворчасці новых навуковых прынцыпаў, пераход да якасна новага этапу машыннай вытворчасці.

Научно-технический прогресс — навукова-тэхнічны прагрэс. Абумоўленае дзеяннем аб'ектыўных эканамічных законаў неперарыўнае аднаўленне усіх бакоў грамадскай вытворчасці і сферы абслугоўвання на базе развіцця выкарыстання дасягненняў навукі і тэхнікі.

Национализация — нацыяналізацыя. Пераход з прыватнай уласнасці ва ўласнасць дзяржавы ці грамадства зямлі, прамысловасці, транспарту, сувязі, банкаў і г.д.

Национализация банков — нацыяналізацыя банкаў. Пераход банкаў ва ўласнасць дзяржавы.

Национализация в развивающихся странах — нацыяналізацыя ў краінах, якія сталі на шлях развіцця. Пераход прадпрыемстваў, зямлі, банкаў, транспарту, знешняга і унутранага гандлю і г.д. з уласнасці замежнага капіталу і нацыянальнай буржуазіі ў рукі дзяржавы.

Национализация земли — нацыяналізацыя зямлі. Адмена прыватнай уласнасці на зямлю, пераход яе ва ўласнасць дзяржавы.

Национализация капиталистическая — нацыяналізацыя капіталіс-

тычная. Пераход у дзяржаўную ўласнасць прыватнай уласнасці некаторых капіталістаў або цэлых галін эканомікі.

Национализация промышленности -- нацыяналізацыя прамысловасці. Пераход у дзяржаўную ўласнасць асобных прамысловых прадпрыемстваў і цэлых галін прамысловасці.

Национальное богатство -- нацыянальнае багацце. Адзін з найбольш важных паказчыкаў эканамічнай магутнасці дзяржавы, які ўяўляе ў грашовым выражэнні ўсю сукупнасць спажывецкіх вартасцей, назапашаных грамадствам за ўвесь перыяд яго вытворчай дзейнасці.

Национальные компании -- нацыянальныя кампаніі. Асноўная арганізацыйная форма дзейнасці нацыянальнага, дзяржаўнага і прыватнага капіталу у краінах, якія сталі на шлях развіцця.

Национальный доход -- нацыянальны даход. Зноў створаная вартасць у сферы матэрыяльнай вытворчасці ці адпаведная ёй частка гадавога грамадскага прадукту у натуральнай форме.

Недогрузка производственного аппарата -- недагрузка вытворчага апарату. З'ява, характэрная для капіталістычнай эканомікі, якая заключаецца ў часовым або пастаянным недавыкарыстанні розных элементаў асноўнага капіталу.

Недоимка -- нядоімка. Сума падатку ці другога абавязковага плацяжу, не ўнесеная ў абумоўлены дзяржавай тэрмін.

Недопотребленая теория -- недаўжываная тэорыя. Буржуазная канцэпцыя, якая тлумачыць эканамічныя крызісы перавытворчасці недастатковымі параметрамі ўласнага спажывання.

Неконвертируемая валюта -- неканверсаваная валюта. Грашовыя адзінкі, якія выкарыстоўваюцца толькі ва унутраным грашовым абарачэнні краіны.

Неликвиды -- неліквіды. Таварна-матэрыяльныя каштоўнасці, лішкавыя або не патрэбныя гаспадару-суб'екту, а таксама цяжка рэалізуемыя гатовыя вырабы.

Необходимое рабочее время -- неабходны рабочы час. Частка рабочага дня, на працягу якой рабочым матэрыяльнай вытворчасці ствараецца неабходны прадукт для нармальнага аднаўлення фізічных і духоўных магчымасцей рабочых і іх членаў сям'і.

Необходимый продукт -- неабходны прадукт. Частка грамадскага



прадукту, якая створана працоўнымі матэрыяльнай вытворчасці, неабходная для нармальнага, з пункту погляду існуючых сацыяльна-эканамічных умоў, аднаўлення фізічных і духоўных магчымасцей працоўных і членаў іх сямей.

Необходимый продукт -- неабходны прадукт. Праца, якая затрачваецца работнікам матэрыяльнай вытворчасці на стварэнне неабходнага прадукту.

Неоколониализм -- неакаланіялізм. Сістэма нераўнапраўных адносін, якую навязваюць імперыялістычныя дзяржавы краінам Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі, якія сталі на шлях развіцця.

Непроизводительный труд -- непрадукцыйная праца. Катэгорыя, якую выкарыстоўвае марксісцкая палітычная эканомія для характарыстыкі працы з пункту погляду звычайнага працэсу працы, грамадскай формы працы.

Непроизводственная сфера -- невытворчая сфера. Комплекс галін народнай гаспадаркі, якія не прымаюць удзел у стварэнні нацыянальнага даходу.

Неустойка -- няўстойка. Вызначаная законам ці дагаворам грашовая сума, якую даўжнік павінен выплаціць крэдытору ў выпадку невыканання ці не належнага выканання абавязацельства. Сумы няўстойкі адносяцца, як правіла, на выніку гаспадарчай дзейнасці даўжніка.

Неценовая конкуренция -- нядэнавая канкурэнцыя. Форма канкурэнтнай барацьбы капіталістаў, у якой, у адрозненне ад канкурэнцыі цэн, што вядзецца шляхам манеўрыравання цэнамі, выкарыстоўваюцца таксама якасць і гарантыя вырабаў і г.д.

Неэквивалентный обмен -- неэквівалентны абмен. Абмен тавараў, пры якім ва ўмовах прыватнай уласнасці цэны значна адхіляюцца ад вартасці, а ва ўмовах капіталістычнай уласнасці - ад цаны вытворчасці.

Новая экономическая политика -- новая эканамічная палітыка, НЭП. Праводзілася партыяй і Савецкай дзяржавай у пераходны перыяд ад капіталізму да сацыялізму, пачала здзяйсняцца па рашэнню 10-га з'езда РКП(б) замест палітыкі "ваеннага камунізму".

"Ножницы цэн" -- "Нажніцы цэн". З'ява, якая характарызуе дынаміку цэн на тавары, што прадаюцца і купляюцца таваравытворцамі за пэўны перыяд, і адлюстроўвае разрыў паміж гэтымі цэнамі.

Номинал — намінал. Намінальная вартасць, якая указана на каштоўных паперах, банкнотах, манетах, паштовых марках.

Номинальная заработная плата — намінальная заработная плата. Грашовая зарплата, якую атрымоўвае працаўнік за выкананую работу.

Норма накопления — норма назапашвання. Паказчык інтэнсіўнага працэсу назапашвання. Характарызуецца доляю нацыянальнага даходу, які ідзе на назапашванне. Норма назапашвання - адзін з асноўных фактараў, якія вызначаюць тэмпы эканамічнага росту.

Норма прибавочной стоимости — норма дадатковай вартасці. Адносіны масы дадатковай вартасці да пераменнага капіталу, выражаныя ў працэнтах. Катэгорыя капіталізму, якая з'яўляецца важнейшым паказчыкам эксплуатацыі працоўных капіталам. ( $m' = \frac{m}{v} \cdot 100\%$).

Норма прибыли — норма прыбытку. Адносіны дадатковай вартасці да усяго авансаванага капіталу, выражаныя ў працэнтах. ( $p' = \frac{m}{c+v} \cdot 100\%$).

Норма ренты — норма рэнты. Адносіны велічыні зямельнай рэнты, атрыманай з якога-небудзь надзелу зямлі, да авансаванага на гэты надзел капіталу.

## О

Облигация — аблігацыя. Каштоўная папера, якая дае яе уладальніку даход у выглядзе выйгрышу або працэнтаў ад яе намінальнай вартасці.

Обмен — абмен. Адна з форм вытворчых адносін, якая заключаецца ва ўзаемным адчужэнні прадуктаў працы і іншых аб'ектаў уласнасці на эквівалентнай аснове дабраахвотнага пагаднення; фаза грамадскага ўзнаўлення, што звязвае вытворчасць і абумоўленае ім размеркаванне з аднаго боку і спажыванне з другога.

Обобществление производства — абагульненне вытворчасці. Сістэма адносін, якія выражаюць грамадскую сувязь паміж вытворцамі на аснове навукова-тэхнічнага прагрэсу і паглыблення грамадскага раздзялення працы; форма руху і развіцця грамадскай вытворчасці, што ахоплівае аб'ектыўныя ўзаемасувязі і ўзаемазалежнасці узроўню і стану прадукцыйных сіл і вытворчых адносін.

Оборот капитала — абарот капіталу. Кругазварот капіталу, што вызначаецца не як аднаразовы акт, а як перыядычны працэс. Час



А.К. вызначаецца як сума часу, на працягу якога увесь авансаваны капітальны кошт праходзіць стадыі вытворчасці і кругазвароту. Хуткасць А.К. разлічваецца па формуле $n = \frac{A}{a}$ , дзе $n$ - колькасць абаротаў, А - прынятая адзінка вымярэння хуткасці кругазвароту капіталу (год, г.зн. 12 месяцаў), $a$ - час кругазвароту дадзенага капіталу.

Оборот производственных фондов — абарот вытворчых фондаў. Кругазварот вытворчых фондаў, што разлічваецца як перыядычна паўтараемы працэс, у выніку якога авансаваная грамадствам вартасць поўнасцю вяртаецца да сваёй першапачатковай формы.

Оборотные средства — абаротныя сродкі. Сукупнасць грашовых сродкаў, укладзеных у абаротныя фонды і фонды абарачэння.

Оборотные фонды — абаротныя фонды. Частка прадукцыйных фондаў, якія як правіла цалкам выкарыстоўваюцца на працягу аднаго кругазвароту, мяняюць сваю натуральна-рэчавую форму і поўнасцю пераносяць свой кошт на выраблены прадукт.

Оборотный капитал — абаротны капітал. Частка прадукцыйнага капіталу, кошт якога у працэсе яго спажывання поўнасцю пераносіцца на прадукт і цалкам вяртаецца да капіталіста ў грашовай форме на працягу кожнага кругазвароту капіталу.

Обратимость (конвертируемость) валют — абарачальнасць (канверсаванасць) валют. Магчымасць абмену (канверсіі) валюты дадзенай пэўнай краіны на валюты другіх краін па валютнаму курсу, які дзейнічае (існуе) на гэты час.

Обращение капитала — абарачэнне капіталу. Працэс руху капіталу, на працягу якога адбываецца яго ператварэнне з грашовай формы ў таварную і з таварнай у грашовую; частка кругазвароту капіталу, што адбываецца ў сферы абарачэння, на капіталістычным рынку.

Общественная (рыночная) стоимость — грамадская (рынчная) вартасць. Агульная для тавару пэўнага віду; вартасць, якая утвараецца ў працэсе унутрыгаліновай канкурэнцыі.

Общественно-необходимое рабочее время — грамадска-неабходны рабочы час. Час, што затрачваецца на вытворчасць тавару пры грамадска нармальных умовах вытворчасці (пры сярэднім для дадзенага этапу развіцця узроўні тэхнічнай аснашчанасці, умення і інтэнсіўнасці працы).

Общественно необходимый труд — грамадска неабходная праца. Праца, што затрачваецца на выраб якога-небудзь тавару пры грамадска нармальных умовах вытворчасці, г.зн. пры сярэднім узроўні тэхнікі, сярэдняй інтэнсіўнасці працы і г.д.

Общественно-экономическая формация — грамадска-эканамічная фармацыя. Гістарычны тып грамадства, што развіваецца на аснове пэўнага спосабу вытворчасці; гістарычна вызначаны спосаб вытворчасці з адпаведнай для яго надбудовай.

Общественное разделение труда — грамадскі падзел працы. Адасабленне розных відаў працоўнай дзейнасці. Існуе два асноўныя (віды) тыпы падзелу працы: унутры грамадства і ўнутры прадпрыемства.

Оптовые цены — аптовыя цэны. Цэны на прамысловую прадукцыю, па якіх дзяржаўныя прадпрыемствы прадаюць сваю прадукцыю буйным прадпрыемствам, забеспячэнска-збытавым арганізацыям і прадпрыемствам гандлю.

Опцион — Апцыён. Пагадненне, якое дазваляе індывіду купляць або прадаваць каштоўныя паперы на працягу пэўнага часу ў адпаведнасці з умовамі пагаднення. Здзелка з апцыёнам - здзелка з правам выбару для пакупніка, які ўплочвае авансам якую-небудзь суму, каб у любы момант (у межах устаноўленага тэрміну) набыць пэўную колькасць акцый па раней абумоўленай цане.

Организация общественного труда — арганізацыя грамадскай працы. Спосаб аб'яднання непасрэдных вытворцаў і спалучэння іх са сродкамі вытворчасці. Агульнымі прыметамі А.Г.П. з'яўляюцца: I) мэта арганізацыі працы; 2) спосабы далучэння да працы; 3) кааперацыя і раздзяленне працы; 4) рэгуляванне працы ў залежнасці ад змены вытворчых задач.

Органическое строение капитала — арганічная будова капіталу. Вартасная будова капіталу, паколькі яна вызначаецца яго тэхнічнай будовай і адлюстроўвае змены тэхнічнай будовы. З матэрыяльна-рэчавага боку састаўныя часткі капіталу ўяўляюць сабой сродкі вытворчасці і рабочую сілу.

Орудия труда — прылады працы. Найважнейшая частка сродкаў вытворчасці, з дапамогай якіх ажыццяўляецца непасрэднае ўздзеянне на прадметы працы. Да іх адносяцца: станкі, абсталяванне, прыборы,



устройства рэгулявання, матоpы.

Основное противоречие капитализма — асноўная супярэчнасць капіталізму. Супярэчнасць паміж грамадскім характарам вытворчасці і прыватнакапіталістычнай формай прысваення прадуктаў працы.

Основной капитал — асноўны капітал. Частка прадукцыйнага капіталу. Поўнасцю удзельнічае ў працэсе вытворчасці, але пераносіць свой кошт на вырабляемы прадукт па частках, па меры зношвання, старэння.

Основной экономический закон капитализма — асноўны эканамічны закон капіталізму. Закон, змест якога - вытворчасць максімуму дадатковай вартасці і прысваення яе капіталістамі шляхам павелічэння колькасці наёмных рабочых і ўзмацнення эксплуатацыі.

Основной экономический закон социализма — асноўны эканамічны закон сацыялізму. Забеспячэнне поўнага дабрабыту і вольнага усебаковага развіцця ўсіх членаў грамадства шляхам няспыннага росту і удасканалення грамадскай вытворчасці.

Основные производственные фонды — асноўныя вытворчыя фонды. Частка вытворчых фондаў прадпрыемства, кошт якіх пераносіцца на вырабляемы прадукт па частках, па меры іх зношвання на працягу кругазвароту.

Относительная прибавочная стоимость — адносная дадатковая вартасць. Дадатковая вартасць, што ўзнікла ў выніку змяншэння неабходнага працоўнага часу і адпаведнага павялічэння дадатковага працоўнага часу; адзін са спосабаў павялічэння ступені эксплуатацыі і павялічэння дадатковай вартасці.

Офферта — аферта. Тэрмін, які ужываецца ў камерцыйнай практыцы для абазначэння накіраванай магчымаму пакупніку пісьмовай прапановы прадаўца аб продажы партыі тавараў на пэўных умовах.

Охрана окружающей среды — ахова навакольнага асяроддзя. Мерапрыемства па рацыянальным выкарыстанні і паляпшэнні рэсурсаў навакольнага асяроддзя.

## П

Пай — пай. Сума грашовага ўзносу, якую зрабіў член кааператыўнай арганізацыі (спажывецкага таварыства, жыллёва-, дачна-будаўнічага кааператыва і др.).

Патриархальное хозяйство — патрыярхальная гаспадарка. Прымітыўная земляробчая альбо качавая жывёлагадоўчая гаспадарка.

Первобытнообщинный способ производства — першабытнаабшчынны спосаб вытворчасці. Першабытны тып кааператыўнай альбо калектыўнай вытворчасці.

Первоначальное накопление капитала — першапачатковае назапашванне капіталу. Гістарычны працэс вымушанага ператварэння непасрэдных выканаўцаў у наёмных рабочых, а сродкаў вытворчасці і грашовых багаццяў - у капітал; гістарычна папярэднічала капіталістычнаму спосабу вытворчасці.

Переменный капитал — пераменны капітал. Частка капіталу, якая выдаткоўваецца прадпрымальнікам на куплю рабочай сілы і змяняе сваю велічыню ў працэсе вытворчасці.

Переходный период от капитализма к социализму — пераходны перыяд ад капіталізму да сацыялізму. Асобы гістарычны перыяд рэвалюцыйнага пераўтварэння капіталістычнага грамадства ў сацыялістычнае.

Платёжный спрос — плацёжны попыт. Попыт на матэрыяльныя даброты і паслугі, забяспечанне грашовымі сродкамі пакупнікоў.

Платёжный баланс — плацёжны баланс. Баланс, які адлюстроўвае суадносіны грашовых укладаў дадзенай краіны з-за мяжы і усіх яе плацяжоў за мяжой за пэўны перыяд.

Плодородие почвы экономическое — эканамічная ўрадлівасць глебы. Здольнасць глебы забяспечваць вытворчасць прадукцыі, якая стварaецца ў выніку штучнага паляпшэння яе складу і метадаў земляробства.

Политическая экономия — палітычная эканомія. Навука, якая вывучае грамадскія адносіны паміж людзьмі, якія склаліся ў працэсе вытворчасці, размеркавання, абмену і спажывання жыццёвых даброт.

Пособие по безработице — дапамога па беспрацоўю. Грашовая сума, якую перыядычна выплочвае дзяржава асобам, прызнаным беспрацоўнымі ва ўстаноўленым законам парадку. З'яўляецца сродкам сацыяльнай абароны часова не занятага насельніцтва і прымяняецца ў краінах з развітай рынкавай эканомікай. У нашай краіне уводзіцца зноў у сувязі з пераходам да рынку.



Постоянный капитал — пастаянны капітал. Частка капіталу, якая існуе ў выглядзе сродкаў вытворчасці (збудаванне, паліва, сыравіна, дапаможныя матэрыялы) і не змяняе велічыні сваёй вартасці ў працэсе вытворчасці.

Потребительский кредит — спажывецкі крэдыт. Асобая форма крэдыту, якую прадпрымальнікі даюць насельніцтву для куплі тавараў асабістага спажывання або аплаты бытавых паслуг.

Потребительская стоимость — спажывецкая вартасць. Карыснасць рэчы, яе магчымасць задавальняць тыя ці іншыя патрэбнасці або як прадмет асабістага ўжытку, або як сродак вытворчасці.

Потребление — спажыванне. Выкарыстанне матэрыяльных каштоўнасцей, створаных у працэсе вытворчасці, адна з найважнейшых сфер эканамічных зносін, фаза працэсу ўзнаўлення.

Предмет труда — прадмет працы. Рэч ці комплекс рэчаў, на якія аказвае ўздзеянне чалавек у працэсе вытворчасці.

Предмет потребления — прадмет спажывання. Частка сукупнага грамадскага прадукта, якая выкарыстоўваецца ў сферы невытворчага спажывання для асабістых і калектыўных патрэб.

Предпринимательские союзы — прадпрымальніцкія саюзы. Класавыя арганізацыі буржуазіі, якія ўзніклі ў канцы XVIII - пачатку XIX ст., і аб'ядноўваюць у сучасны перыяд большасць капіталістаў асобных галін, раёнаў і цэлых краін з мэтай барацьбы супраць рабочага класа, уздзеяння на палітыку дзяржавы.

Предпринимательство — прадпрымальніцтва. Ажыццяўляецца ў адпаведнасці з заканадаўчай дзейнасцю суб'екта (асобы або так ці інакш аб'яднанай групы асоб), накіравана на атрыманне прыбытку ва ўмовах рыначнай эканомікі. У залежнасці ад формы ўласнасці існуе дзяржаўнае, калектыўнае і прыватнае прадпрымальніцтва. У адрозненне ад калектыўнага і прыватнага дзяржаўнае прадпрымальніцтва можа мець і шырэйшыя, чым толькі атрыманне прыбытку, мэты, звязаныя з развіццём эканомікі краіны ў цэлым, а таксама з рашэннем актуальных сацыяльных задач.

Предпринимательский доход — прадпрымальніцкі даход. Частка прыбытку, якая застаецца ў распараджэнні капіталіста-функцыянера пасля выплаты працэнта на ўзяты ім у пазыку капітал.

Прибавочная стоимость — дадатковая (прыбавачная) вартасць. Вартасць, створаная працай наёмнага рабочага звыш вартасці яго рабочай сілы і бязвыплатна прысвоеная капіталістам.

Прибавочное рабочее время — дадатковы працоўны час. Частка рабочага дня, на працягу якой рабочы стварае дадатковую вартасць, што прысвойваецца капіталістам.

Прибавочный продукт — дадатковы (прыбавачны) прадукт. Сукупнасць матэрыяльных даброт, якія ствараюцца ў сферы вытворчасці і сферы паслуг звыш неабходнага прадукта.

Прибавочный труд — дадатковая праца. Праца, якая затрачваецца вытворцамі за дадатковы рабочы час з мэтай стварэння прыбавачнага прадукта.

Прибыль капиталистическая — прыбытак капіталістычны. Пераўтвораная форма дадатковай вартасці, лішак выручкі над затратамі капіталу, які прысвойваецца капіталістам бязвыплатна.

Прибыль социалистических предприятий — прыбытак сацыялістычных прадпрыемстваў. Адна з форм чыстага даходу сацыялістычнага грамадства.

Природные богатства — прыродныя каштоўнасці. Сукупнасць прыродных матэрыяльных каштоўнасцей, якія з'яўляюцца неабходнымі прыроднымі ўмовамі для існавання чалавечага грамадства.

Прогнозирование экономическое — прагназіраванне эканамічнае. Навуковае прадбачанне найбольш імавернных змен стану, структуры і дынамікі развіцця народнай гаспадаркі, грамадскіх патрэбнасцей і вытворчых магчымасцей, напрамкаў тэхнічнага прагрэсу, колькаснага саставу насельніцтва.

Продовольственная проблема — харчовая праблема. У вузкім сэнсе - недахоп прадуктаў харчавання, абумоўлены надзвычайнымі метэаралагічнымі з'явамі (засуха, град, дажджы) ці грамадска-палітычнымі падзеямі (войны, рэакцыйныя ўрадавыя перавароты і г.д.), слабым узроўнем развіцця прадукцыйных сіл у сельскай гаспадарцы, сацыяльнай няроўнасцю ў спажыванні і другімі сацыяльна-эканамічнымі прычынамі, якія склаліся ў краіне. У шырокім сэнсе - комплекс эканоміка-тэхналагічных, сацыяльна-дэмаграфічных і палітычных праблем вытворчасці, размеркавання і спажывання харчовых прадуктаў, обвастрэнне якіх выклікае напружанасць у забеспячэнні грамадства



неабходнымі харчовымі рэсурсамі.

Производительность труда — прадукцыйнасць працы. Плённасць, эфектыўнасць канкрэтнай працы. Вымяраецца колькасцю прадукцыі, створанай работнікам у сферы матэрыяльнай вытворчасці за адзінку рабочага часу, ці колькасцю часу, які затрачаны на стварэнне адзінкі прадукцыі.

Производительные силы — вытворчыя сілы. Сродкі вытворчасці і людзі, якія валодаюць ведамі, вытворчым вопытам, працоўнымі навыкамі, неабходнымі для ажыццяўлення вытворчай дзейнасці.

Производительный капитал — прадукцыйны капітал. Адна з форм функцыяніравання прамысловага капіталу, якая ўтвараецца ў выніку пераходу капіталу з грашовай формы ў прадукцыйную; другая стадыя кругазвароту прамысловага капіталу.

Производственная сфера — вытворчая сфера. Сукупнасць галін народнай гаспадаркі, якая аб'ядноўвае матэрыяльную вытворчасць і матэрыяльныя паслугі; галіны і віды дзейнасці, якія ствараюць матэрыяльныя даброты ў форме рэчавых прадуктаў і пераўтворанай энергіі прыроды ці аказваюць паслугі матэрыяльнага характару, што з'яўляюцца працягам працэсу вытворчасці.

Производственное объединение — вытворчае аб'яднанне. Першаснае структурнае звяно народнай гаспадаркі, якое забяспечвае адпаведны сучасным умовам навукова-тэхнічнага прагрэсу ўзровень канцэнтрацыі вытворчасці і цэнтралізацыі неабходных матэрыяльных і фінансавых рэсурсаў; адзіны арганізацыйна аформлены вытворча-гаспадарчы комплекс, у склад якога ўваходзяць фабрыкі, заводы, навукова-даследчыя, праектна-канструктарскія, тэхналагічныя і іншыя падраздзяленні.

Производственные отношения — вытворчыя адносіны. Грамадскія адносіны паміж людзьмі, якія складаюцца незалежна ад іх волі і свядомасці, у працэсе вытворчасці, размеркавання, абмену і спажывання матэрыяльных даброт.

Производственные фонды — вытворчыя фонды. Матэрыяльныя і грашовыя сродкі, якія знаходзяцца ў распараджэнні прадпрыемстваў нашай дзяржавы для забеспячэння планамернага функцыянавання працэса вытворчасці і абарачэння прадукцыі.

Производство — вытворчасць. Працэс стварэння матэрыяльных

даброт, якія неабходныя для існавання і развіцця грамадства.

Промышленный капитал — прамысловы капітал. Капітал, авансаваны на вытворчасць дадатковай вартасці і які функцыяніруе у сферы матэрыяльнай вытворчасці.

Простая капиталистическая кооперация — простая капіталістычная кааперацыя. Самая першая форма капіталістычнага прадпрыемства, якая уяўляе сабой аб'яднанне пад камандай капіталіста наёмных рабочых, якія выконваюць аднародную работу.

Простое товарное производство — простая таварная вытворчасць. Вытворчасць прадуктаў на абмен шляхам куплі і продажу, якая грунтуецца на прыватнай уласнасці дробных таваравытворцаў і іх уласнай працы.

Простой труд — простая праца. Праца, якая не патрабуе спецыяльнай падрыхтоўкі, некваліфікаваная праца, "якой можна навучыць кожнага сярэдняга індывідуума" (К.Маркс і Ф.Энгельс. Соч., т. 13, с. 17).

Протекционизм — пратэкцыянізм. Эканамічная палітыка дзяржавы, якая садзейнічае развіццю нацыянальнай эканомікі шляхам засцеражэння яе ад замежнай канкурэнцыі.

Прошлый труд — мінулая праца. Праца арэчаўленая у матэрыяльных дабротах - сродках вытворчасці і прадметах спажывання.

Процент — працэнт. Частка прыбытку, якую функцыянер-капіталіст, прамыслоўца ці гандляр, выплочвае уласніку пазыковага капіталу за права часовага карыстання яго грашовымі сродкамі.

Процентная ставка — працэнтная стаўка. Колькасная мера пазыковага працэнта (цаны пазыковага капіталу, ці капіталу, які аддаецца у крэдыт). Стаўка (норма) працэнта налічваецца як суадносіны гадавога даходу, атрыманага на пазыковы капітал, да сумы прадастаўленага крэдыту. Велічыня стаўкі залежыць ад попыту і прапановы пазыковага капіталу, рух якіх вызначаецца рознымі фактарамі: маштабамі вытворчасці, памерамі грашовых накапленняў і зберажэнняў насельніцтва, суадносінамі паміж сумай крэдытаў, якія прадаставіла дзяржава, і яго даўгамі, цыклічнымі ваганнямі вытворчасці, ступенню інфляцыі, міжнароднымі фактарамі - станам плацёжных балансаў, валютных курсаў і інш.



## Р

Рабовладельческий строй — рабаўладальніцкі лад. Першая у гісторыі чалавечага грамадства класавая грамадска-эканамічная фармацыя, заснаваная на прыватнай ("антычнай") форме уласнасці і эксплуатацыі чалавека чалавекам, калі аб'ектам прысваення становіцца сам непасрэдны вытворца.

Рабочая сила — рабочая сіла. Здольнасць да працы, сукупнасць фізічных і інтэлектуальных здольнасцей, якімі валодае чалавек і якія выкарыстоўваюцца ім для вытворчасці жыццёвых даброт.

Рабочий день — рабочы дзень. Час сутак, на працягу якога рабочы працуе на прадпрыемстве ці ва установе.

Рабочий класс — рабочы клас. Галоўная прадукцыйная сіла і непасрэдны удзельнік асноўных вытворчых адносін сучаснага грамадства.

Рабство — рабства. Першая у гісторыі і найбольш грубая форма эксплуатацыі, заснаваная на прысваенні уласнікам сродкаў вытворчасці працы і самаго вытворцы як асобы.

Разделение труда — падзел працы. Гістарычна вызначаная сістэма грамадскай працы, якая склалася у працэсе развіцця грамадства у выніку якаснай дыферэнцыяцыі працоўнай дзейнасці, што прыводзіць да адасаблення і суіснавання розных яе відаў.

Распределение — размеркаванне. Адна з фаз (стадый) грамадскага узнаўлення, сувязное звяно паміж вытворчасцю і спажываннем.

Распределения по труду закон — размеркавання па працы закон. Аб'ектыўны эканамічны закон сацыялізму, згодна якому размеркаванне матэрыяльных даброт для асабістага і індывідуальнага спажывання здзяйсняецца у адпаведнасці з колькасцю і якасцю працы, затрачанай працаўнікамі у грамадскай вытворчасці.

Рационализация производства — рацыяналізацыя вытворчасці. Сукупнасць мерапрыемстваў, накіраваных на удасканаленне усіх элементаў працэсу вытворчасці і метадаў іх спалучэння з мэтай павышэння эфектыўнасці вытворчасці.

Реальные доходы населения — рэальныя даходы насельніцтва. Частка нацыянальнага даходу, якая выкарыстоўваецца насельніцтвам для спажывання ці накаплення.

Ревальвация -- рэвальвацыя.(Ад лац. *re* - прыстаўка, азначае аднаўленне і *valeo* - маю значэнне, варты). Павышэнне вартасці, якая выражаецца ў павелічэнні афіцыйнага залатога забеспячэння, валютнага парытэту грашовай адзінкі ці ў фактычна устойлівым павышэнні яе валютнага курсу.

Ревизионизм -- рэвізіянізм. Антынавуковы перагляд палажэнняў марксізму-ленінізму і апартуністычны кірунак унутры рабочага рэвалюцыйнага руху, які пад маркай творчага асэнсавання новых з'яў рэчаіснасці ажыццяўляе рэвізію карэнных, пацверджаных практыкай палажэнняў марксісцкай тэорыі.

Регулирование -- рэгуляванне. Эканамічныя, мэтанакіраваныя працэсы, якія забяспечваюць падтрыманне ці змяненне эканамічных з'яў і іх сувязей.

Режим экономии -- рэжым эканоміі. Сістэма форм і метадаў планамернай мінімізацыі затрат рэсурсаў адносна атрыманага карыснага выніку: адзін з найважнейшых сродкаў павышэння эканамічнай эфектыўнасці грамадства.

Реинвестиции иностранного капитала в развивающихся странах.-- рэінвестыцыі замежнага капіталу ў краінах, якія развіваюцца. Укладанні за кошт выкарыстоўвання часткі прыбытку, што атрымоўваецца ад эксплуатацыі прыродных і працоўных рэсурсаў гэтых краін.

Реновация основных фондов -- рэнавацыя асноўных фондаў. Эканамічны працэс замяшчэння выбываючых у выніку маральнага і фізічнага старэння вытворчых асноўных фондаў новымі.

Рента -- рэнта. Від даходу, які рэгулярна атрымоўваецца з капіталу, зямлі, маёмасці і не звязаны з прадпрымальніцкай дзейнасцю.

Рентабельность -- рэнтабельнасць. Адзін з найважнейшых паказчыкаў эканамічнай эфектыўнасці вытворчасці на прадпрыемствах, у аб'яднаннях, галінах эканомікі і ў народнай гаспадарцы ў цэлым.

Реприватизация -- рэпрыватызацыя. (Ад лац. *re* - прыстаўка, азначае тут узнаўленне, паўтарэнне). Вяртанне да прыватнай уласнасці (частковае ці поўнае) дзяржаўнай уласнасці (частковай ці поўнай), што ўзнікла ў выніку здзейсненага раней скуплівання прадпрыемстваў, зямельных участкаў, банкаў і інш. у прыватных уласнікаў.



Ройялти -- раялці. Кампенсацыя, якая выплочваецца на працягу абумоўленага перыяду за выкарыстанне патэнтаў, аўтарскіх правоў, прыродных рэсурсаў і другіх відаў уласнасці.

Розничные цены -- рознічныя цэны. Цэны, па якіх тавары і паслугі рэалізуюцца насельніцтву і іншым спажыўцам.

Ростовщический капитал -- ліхвярскі капітал. Характэрная для дакапіталістычнай і капіталістычнай фармацый форма капіталу, які прыносіць працэнты.

Ростовщичество -- ліхвярства. У эксплуататарскіх грамадствах выдача грашовых ссудаў "у рост" пры ўмове выплаты заёмнікам высокіх працэнтаў.

Рынки золота -- рынкі золата. Асобыя цэнтры ў капіталістычных краінах, дзе вядзецца рэгулярная купля-продаж золата, галоўным чынам для прамысловага спажывання, спекуляцыі і ў асобных выпадках для манетарных мэт.

Рыночная стоимость -- рынкавая вартасць. Колькасць грамадска неабходных затрат абстрактнай працы на вытворчасць тавару.

Рыночные цены -- рынкавыя цэны. Грашовае выражэнне вартасці тавараў, рэалізаваных на рынку і фактычныя цэны, па якіх ажыццяўляецца купля-продаж тавараў.

С

Самофинансирование -- самафінансаванне. Фінансаванне прадпрыемстваў, фірм і кампаній за кошт унутраных крыніц накаплення.

Сберегательные кассы -- ашчадныя касы. Крэдытныя ўстановы, асноўная функцыя якіх - прыцягненне грашовых зберажэнняў і часова свабодных сродкаў насельніцтва.

Сбережение -- зберажэнне. Эканамічны працэс, звязаны з інвесціраваннем.

Свободное время -- свабодны час. Частка нерабочага часу, вызваленая членамі грамадства ад няўхільных, неабходных спраў.

Себестоимость продукции -- сабекошт прадукцыі. Грашовае выяўленне выдаткаў вытворчасці, бягучыя расходы сацыялістычнага прадпрыемства на выраб і рэалізацыю прадукцыі.

"Система участия" -- "сістэма удзелу". Набыццё адной кампаніяй кантролю над шэрагам іншых шляхам куплі іх кантрольных пакетау акцый.

Система экономических показателей -- сістэма эканамічных паказчыкау. Сукупнасць узаемазвязаных эканамічных паказчыкау, якія дакць колькасныя і якасныя характарыстыкі функцыяніраванню і развіцця народнай гаспадаркі (у цэлым асобных яе галін і раёнау).

Системный анализ в экономике — сістэмны аналіз у эканоміцы. Метад падрыхтоукі навукова-грамадскіх рашэнняу вялікіх комплексных праблем у сферы кіравання.

Сложный труд — складаная праца. Работа працоунага, які валодае пэунай спецыяльнай падрыхтоукай, кваліфікаваная праца.

Смит Адам -- Сміт Адам (5.06.1723 г. - 17.07.1790 г.). Шатландскі эканаміст і філосаф, прадстаунік класічнай буржуазнай палітычнай эканоміі.

Собственность — уласнасць. Адносіны людзей адзін да аднаго на падставе прысваення сродкау вытворчасці і стварэння з іх дапамогай матэрыяльных даброт.

Совокупный общественный продукт -- сукупны грамадскі прадукт. Валавая матэрыяльная прадукцыя грамадства, створаная за вызначаны прамежак часу (звычайна за год).

Совокупный рабочий — сукупны рабочы. Грамадская камбінацыя індывідуальных рабочых сіл на аснове гістарычных канкрэтных тыпау кааперацыі і раздзялення працы.

Социализм -- сацыялізм. Першасная фаза сацыялістычнай фармацыі, грамадска эканамічны лад, заснаваны на грамадскай уласнасці на сродкі вытворчасці, які планамерна развіваецца у інтарэсах поунага дабрабыту народа і усебаковага развіцця кожнага члена грамадства у адпаведнасці з прынцыпам "Кожны - па здольнасці, кожнаму - па працы".

Способ производства -- спосаб вытворчасці. Адзінства двух узаемнаабумоуленых бакоу - прадукцыйных сіл і вытворчых адносін, які характарызуе узровень, дасягнуты у вырабе, стварэнні неабходных для жыцця сродкау вытворчасці і прадметау спажывання.

Спрос -- попыт. Колькасць таварау, якія могуць быць рэалізаваны у даны момант на рынку пры існуючым узроуні цэн. У вартасным выражэнні выступае як сума цэн гэтых таварау. Рыначны попыт знешне праяуляецца як сумарная велічыня попыту агульнай масы пакупнікоу.



Спрос и предложение -- попыт і прапанова. Катэгорыі таварнай вытворчасці. Прапанова фарміруе попыт праз асартымент выробленых таварау і праз іх цэны.

Средняя норма прибыли -- сярэдняя норма прыбытку. Роуны прыбытак на раунавялікія капіталы незалежна ад таго, у якіх галінах капіталістычнай вытворчасці яны выкарыстоуваюцца.

Средства производства -- сродкі вытворчасці. Сукупнасць сродкау і прадметау працы, якія выкарыстоуваюцца у працэсе грамадскай вытворчасці для стварэння матэрыяльных даброт.

Ссудный капитал -- пазыковы капітал. Грашовы капітал, уладальнік якога дае яго іншым капіталістам на пэуны тэрмін на умовах вяртання і за пэуную плату у выглядзе працэнта.

Стоимостное строение капитала — вартасная будова капіталу. Адносіны вартасці пастаяннага капіталу да вартасці пераменнага капіталу.

Стоимость — вартасць. Арэчауленая у тавары грамадская праца таваравытворцау.

## Т

Тарифная система — тарыфная сістэма. Планамерная форма арганізацыі і рэгулявання заработнай платы у залежнасці ад працоунага укладу працауніка.

Территориальный раздел мира -- тэрытарыяльны падзел свету. Адна з характэрных прыкмет імперыялізму, форма каланіяльнага заняволення, прыгнечання і эксплуатацыі працоуных мас эканамічна слаба развітых краін.

Техническое изменение цен — тэхнічнае змяненне цэн. Павялічэнне ці зніжэнне у выніку умоу, якія развіваюцца унутры самой біржы і не залежаць ад фактарау попыту і прапановы на рэальны тавар. Гэтыя умовы уключаюць змяненні у ліку адкрытых кантактау; аб'ёму здзелак; ступені папярэдняга змянення цэн.

Техническое строение капитала — тэхнічная будова капіталу.

Адносіны масы сродкаў вытворчасці да колькасці занятых рабочых, якія прыводзяць іх у рух.

Товар — тавар. Прадукт працы, прызначаны для абмену шляхам куплі-продажу.

Товарная продукция — таварная прадукцыя. Прадукцыя атрыманая ў выніку вытворчай дзейнасці прадпрыемства, рэалізаваная ці гатовая для рэалізацыі на бок.

Товарное обращение — таварнае абарачэнне. Абмен тавараў, які ажыццяўляецца пры дапамозе грошай (па формуле Т – Г – Т).

Товарное производство — таварная вытворчасць. Вытворчасць прадуктаў для абмену шляхам куплі-продажу.

Товарный капитал — таварны капітал. Трэцяя функцыянальная форма прамысловага капіталу.

Товарный фетишизм — таварны фетышызм. Арэчаўленне вытворчых адносін паміж людзьмі ва умовах таварнай вытворчасці, заснаванай на прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці.

Торги — таргі. Спосаб продажу тавараў, размяшчэнне заказаў і выдачы падрадаў да раней устаноўленага тэрміну шляхам прыцягнення прапаноў некалькіх пастаўшчыкоў і падрадчыкаў. Здзелка заключаецца з тымі з удзельнікаў, чые прапановы найбольш выгадныя арганізатарам таргоў.

Торговая прибыль — гандлёвы прыбытак. Прыбытак, які атрымлівае гандлёвы капіталіст, асобая ператвораная форма дадатковай вартасці, створаная рабочым класам у працэсе капіталістычнай вытворчасці, якая прысвойваецца гандлёвымі капіталістамі.

Торговый капитал — гандлёвы капітал. Адасобленая частка прамысловага капіталу, якая выкарыстоўваецца асобнай групай капіталістаў у сферы абароту.

Транснациональные монополии — транснацыянальныя манаполіі. Найбуйнейшыя манаполіі імперыялістычных дзяржаў, нацыянальныя па капіталу, але ператвораныя на базе капіталу ў міжнародныя паводле сферы сваёй дзейнасці.

Трест — трэст. Адна з форм манапалістычных аб'яднанняў у перыяд імперыялізму.

Тратта — тратта. Фінансавыя дакументы (вэксалі), якія аплочваюцца па прад'яўленню ці на пэўную дату. Яны ўзнікаюць на аснове плацяжоў за мяжу ці з-за рубяжа ў даную краіну. У адпаведнасці з траттай банк павінен выплаціць грошы прад'явіцелю.



Труд — праца. Працэс свядомай, мэтазгоднай дзейнасці людзей, з дапамогай якой яны відазмяняюць прадметы прыроды і прыстасоўваюць іх для задавальнення сваіх патрэб.

## У

Уклад экономический — уклад эканамічны. Сектар эканомікі краіны, які ўяўляе сабой тып гаспадаркі, у аснове якой ляжыць пэўная форма уласнасці на сродкі вытворчасці і адпаведныя ёй вытворчыя адносіны.

Уровень жизни — узровень жыцця. Сукупнасць умоў жыцця і працы людзей, якія адпавядаюць дасягнутаму ўзроўню грамадскай вытворчасці і абумоўленыя пануючым ладам.

Утопический социализм — утапічны сацыялізм. Папярэднія навуковаму камунізму тэорыі і вучэнне аб карэннай перабудове і справядлівым укладзе грамадства на сацыялістычных пачатках, якія не абапіраюцца на веды законаў грамадскага развіцця і яго рухаючых сіл.

Учредительская прибыль — устаноўчы прыбытак. Прыбытак, які прысвайваецца заснавальнікамі акцыянернай кампаніі.

## Ф

Феодальный способ производства — феадальны спосаб вытворчасці. Спосаб вытворчасці матэрыяльнага забеспячэння, аснову якога складаюць уласнасць феадалаў на галоўны сродак вытворчасці – зямлю і асабістую залежнасць ад іх вытворцаў – сялян, якія вядуць дробную індывідуальную гаспадарку на зямлі феадалаў.

Физиократы — фізіякраты. Прадстаўнікі класічнай буржуазнай палітычнай эканоміі ў Францыі ў сярэдзіне ХУШ ст. Заснавальнік школы фізіякратаў – Ф.Кэнэ.

Фиктивный капитал — фіктыўны капітал. Капітал, які існуе ў выглядзе каштоўных папер, якія прыносяць даход іх уладальніку.

Финансовая олигархия — фінансавая алігархія. Вярхушка мана-

палістычнай буржуазіі, якая персанальна прадстаўляе фінансавы капітал.

Финансово-монополистические группы — фінансава-манапалістычныя групы. Арганізацыйная форма панавання фінансавага капіталу, сукупнасць прамысловых, банкаўскіх, крэдытных, страхавых, транспартных, гандлёвых і іншых кампаній, якія знаходзяцца пад кантролем аднаго ці некалькіх узаемазвязаных магнатаў капіталу.

Финансовый капитал — фінансавы капітал. Манапалістычны прамысловы капітал, які зліўся з манапалістычным банкаўскім капіталам.

Финансы при социализме — фінансы пры сацыялізме. Сістэма эканамічных адносін, якія паказваюць планамернае стварэнне і выкарыстанне фондаў грашовых сродкаў у інтарэсах забеспячэння расшыранага сацыялістычнага ўзнаўлення і задавальнення іншых грамадскіх патрэб.

Фонд возмещения — фонд кампенсавання. Частка сукупнага грамадскага прадукта, якая ідзе на ўзнаўленне спажытых у працэсе стварэння матэрыяльных выгад сродкаў вытворчасці.

Фонд накопления — фонд накаплення. Частка нацыянальнага даходу, якая выкарыстоўваецца для расшырэння вытворчасці, будаўніцтва аб'ектаў сацыяльнага і культурна-бытавога прызначэння, а таксама для стварэння грамадскіх рэзерваў і страхавых запасаў.

Фонд потребления — фонд спажывання. Частка нацыянальнага даходу, якая выкарыстоўваецца для задавальнення матэрыяльных і культурных патрэб членаў грамадства.

Фондовая биржа — фондавая біржа. Рынак каштоўных папер (акцыі, аблігацыі), на якім гандаль вядзецца рэгулярна ў адпаведнасці з устаноўленымі правіламі. Праз фондавую біржу мабілізуюцца сродкі для доўгатэрміновых інвестыцый і на фінансаванне дзяржаўных праграм. На Ф.Б. праводзіцца купля-продаж акцый і аблігацый акцыянерных кампаній і аблігацый дзяржаўных пазык.

Фондовооруженность труда — фондаўзброенасць працы. Паказчык, які характарызуе ступень аснашчанасці працы асноўнымі вытворчымі фондамі.

Фондоотдача — фондааддача. Паказчык эфектыўнасці выкарыстання асноўных вытворчых фондаў прадпрыемства (галіны народнай гаспадаркі).



Фонды обращения — фонды абарачэння. Сродкі сацыялістычных прадпрыемстваў, якія функцыяніруюць у сферы абарачэння, а таксама сродкі забеспячальных, збытавых і гандлёвых арганізацый.

Фонды социалистических предприятий — фонды сацыялістычных прадпрыемстваў. Матэрыяльныя і грашовыя сродкі, якія планамерна абслугоўваюць працэс вытворчасці і абарачэння.

Фонды экономического стимулирования — фонды эканамічнага стымулявання. Сродкі гаспадарча-разліковых аб'яднанняў (прадпрыемстваў), якія утвараюцца ў асноўным за кошт адлічэнняў ад прыбытку і прызначаюцца для матэрыяльнага заахвочвання высокіх паказчыкаў працы.

Форма стоимости — форма вартасці. Форма выражэння вартасці тавара на розных этапах развіцця гандлёвай вытворчасці і абмену.

Френчайзинг — фрэнчайзінг. 1. Спецыяльная прывілегія, якую прадастаўляе ўрад прыватнаму прадпрыемству, напрыклад, кіраванне гарадскім транспартам. Прыватныя прадпрыемствы ў такім выпадку выплочваюць налог за выкарыстанне права ці прывілеі; 2. Форма маркетынгу ці размеркавання тавараў, пры якой "бацькоўская" кампанія звычайна прадастаўляе індывідууму ці кампаніі ("даччыной" ці пабочнай) права ці прывілегію рабіць бізнес у прадпісанай форме на працягу пэўнага перыяду часу і ў пэўным месцы.

Функции денег — функцыі грошай. Найбольш поўна выражаюць сутнасць грошай. Усяго 5 функцый: мера вартасці, сродак абарачэння, сродак утварэння скарбаў і накаплення, сродак плацяжу, сусветныя грошы.

Факторинг — фактарынг. Від паслуг, якія гандлёвая пасрэдніцкая фірма аказвае свайму кліенту на аснове доўгатэрміновага кантракту. Фактарныя паслугі ўключаюць пакупку рахункаў за прададзеныя тавары і паслугі, узыманне даўгоў, прадастаўленне крэдытаў, авансаванне грошай на падтрыманне ў нармальным размеры таварама-тэрыяльных запасаў ці пастаянных актываў, а таксама дапаможныя паслугі ў такіх галінах, як маркетынг, аналіз продажу і кіравання.

Фьючерс, фьючерсный контракт — ф'ючэрс, ф'ючэрсны кантракт. 1. Кантракт на пастаўку абавязкова фіксаванай колькасці тавару пэўнага гатунку (маркі) па узгодненай цане і на устаноўлены правілами біржы перыяд часу. Амаль заўсёды абавязацельствы па Ф.К. вы-

конваюцца шляхам выплаты грошай ці атрымання розніцы у цане, а не шляхам пастаукі рэальнага тавару. 2. Ф'ючэрсны кантракт пэунай пазіцыі (напрыклад, майскі ф'ючэрс).

Фьючерсная сделка — ф'ючэрсная здзелка. Здзелка на ф'ючэрснай біржы па куплі-продажу ф'ючэрснага кантракта.

Х

Характер труда — характар працы. Выяуляе уласцівыя дадзенаму эканамічнаму ладу грамадства самыя важныя рысы сацыяльнай прыроды працы.

Хеджирование — хеджыраванне. Форма страхавання прыбытку ад зменау цэн ці валютных курсау на біржы пры заключэнні ф'ючэрсных здзелак, калі прадавец адначасова з заключэннем такіх на рэальны тавар робіць пакупку, а пакупнік - продажу адпаведнай колькасці ф'ючэрсных кантрактау на той жа тэрмін і на тую ж колькасць таварау (г.зн. прадавец ці пакупнік аднaчасова з гандлёвай здзелкаю робяць на біржы зваротную аперацыю з ф'ючэрсамі). Сэнс страхоукі заключаецца у наступным: калі адзін бок страчвае як прадавец, то выйграе у ролі пакупніка). Механізм хеджыравання заснаваны на тым, што змяненне рынычных цэн на рэальныя тавары і цэн на ф'ючэрсы блізкія па сваіх памерах і кірунку.

Хозрасчетное звено — звяно гаспадарчага разліку. Гаспадарчая ячэйка грамадскай вытворчасці.

Хозяйственный договор — гаспадарчы дагавор. Асноуная форма прававой арганізацыі гаспадарчых адносін паміж вытворчымі аб'яднаннямі (прадпрыемствамі) - пастаушчыкамі і спажыуцамі прадукцыі, а таксама паміж вытворчымі аб'яднаннямі, навуковымі арганізацыямі, гандлёвымі і транспартнымі прадпрыемствамі.

Хозяйственный механизм — гаспадарчы механізм грамадства. Спосаб планавага вядзення гаспадаркі, сукупнасць інструментау, форм і метадау кіраунiцтва эканомікай.

Хозяйственный расчет — гаспадарчы разлік як эканамічная катэгорыя. Гэта сістэма адносін паміж грамадствам у цэлым і яго гаспадарчымі звёнамі, паміж самімі гаспадарчымі звёнамі, а таксама паміж гэтымі звёнамі і іх унутранымі падраздзяленнямі.



Ц

Цена — цана. Форма вартасці тавару, яе грашовае выражэнне. Цана тавару павінна пакрываць затраты на яго вытворчасць - выдаткі - і прыносіць вытворцу, прадауцу тавару прыбытак, г.зн. забяспечваць яму так званую грамадска нармальную рэнтабельнасць. Узровень цаны абумоулівающь не толькі затраты вытворцы, яна знаходзіцца пад пэуным уздзеяннем карыснасці тавару. Рынычная цана устанаулiваецца пад уздзеяннем попыту і прапановы, іх раунавагі.

Ценные бумаги — каштоуныя паперы. Камерцыйныя дакументы, якія прыносяць даход іх уладальніку, а таксама сведчаць аб праве уласнасці на актывы - напрыклад, сертыфікаты акцый, аблігацый, закладных. Ствараюць папяровы дублікат рэальнага капіталу і у палітычнай эканоміі характарызуюцца як фіктыуны капітал.

Цикл — цыкл. Паслядоунасць змен дзелавой актыунасці, якая пастаянна паутараецца; у класічным варыянце складаецца з чатырох фаз - крызіса, дэпрэсіі, ажыулення і уздыму.

Ч

Чартер — чартэр. Дагавор паміж уладальнікам і фрахтоушчыкам аб перавозцы грузау ці людзей марскім ці паветраным транспартам. Спецыяльна для гэтай перавозкі адпраушчыку прадастауляецца ці транспартны сродак (поунасцю ці часткова) ці памяшканне на вызначаны тэрмін.

Частная собственность — прыватная уласнасць. Адносіны паміж людзьмі у працэсе прысваення сродкау вытворчасці і стварэння з іх дапамогаю матэрыяльных даброт.

Частный труд — прыватная праца. Праца адасобленых, знешне незалежных і самастойных таваравытворцау.

Чек — чэк. Каштоуная папера з абмежаванай магчымасцю перадачы другой асобе, утрымлівае пісьмовы загад укладчыка аб выплаце з яго банкаускага рахунка пэунай сумы грошай указанай у загадзе асобе.

Казначэйскі чэк - каштоуная папера, якая выпушчана самім банкам і падпісана яго казначэем.

Сертыфіцыраваны (сертифицированный) чэк - такі, на якім маецца адзнака, што сведчыць аб гарантыі аплаты банкам.

Чистая продукция — чыстая прадукцыя. Эканамічны паказчык, які характарызуе зноў створаную вартасць, найважнейшы вынік дзейнасці прадпрыемстваў, аб'яднанняў і галін матэрыяльнай вытворчасці

Чистый доход общества — чысты даход грамадства. Частка вартасці сукупнага грамадскага прадукта, якая ў працэсе рэалізацыі адасабляецца ад грамадскіх выдаткаў вытворчасці.

Чистый доход предприятия — чысты даход прадпрыемства. Частка чыстага даходу грамадства. У колькасных адносінах Ч.д.п. уяўляе сабой розніцу паміж грашовай выручкай ад рэалізацыі выпрацаванай прадукцыі паводле аптовых цэн прадпрыемства і яе фактычным сабекоштам

## Э

Экологический кризис — экалагічны крызіс. Разбурэнне, нанясенне непапраўнай або, якая цяжка ліквідуецца шкоды навакольнаму асяроддзю, выкліканае нерацыянальнай драпежніцкай эксплуатацыяй прыродных рэсурсаў, безгаспадарчасцю, якая дасягнула такіх маштабаў, што ператварылася ў пагрозу для здароўя людзей, у перашкоду для павялічэння харчовых рэсурсаў, росту прамысловай вытворчасці.

Экономика — эканоміка. (Ад грэч. oikonomike, дасл. ўна - мастацтва вядзення хатняй гаспадаркі). Гістарычна вызначаная сукупнасць вытворчых адносін, эканамічны базіс грамадства, гаспадарка той ці іншай краіны, якая ўключае адпаведныя галіны і віды вытворчасці.

"Экономикс" — "эканомікс". Сучасны напрамак у эканамічнай навуцы. Тэрмін "эканомікс" упершыню з'явіўся ў незавершанай працы англійскага эканаміста У.С.Джэванса (1832-1882) "Прынцыпы "эканомікс". У шырокі навуковы абарот уведзены і дасканальна ахарактарызаваны А.Маршалам. Згодна А.Маршалу, паняцці "палітычная эканомія" і "эканомікс" не аднолькавыя, існуе чыстая і прыкладная эканамічная навука, адпаведна - палітычная эканомія і "эканомікс". У заходняй літаратуры выкарыстоўваюцца абодва указаныя тэрміны без іх агульнапрызнанага размежавання.

Экономико-математические методы — эканоміка-матэматычныя метады. Спосабы і прыёмы эканамічнай навукі і прыкладной матэматыкі, якая прымяняецца для колькаснага аналізу эканомікі як цэльнай сістэмы ці яе асобных частак.



Экономическая оценка земли — эканамічная ацэнка зямлі. Ацэнка карыснага эфекту, які атрымліваецца ў працэсе выкарыстання зямлі як галоўнага сродка вытворчасці ў сельскай гаспадарцы.

Экономическая эффективность внедрения новой техники — эканамічная эфектыўнасць укаранення новай тэхнікі. Паказчык выніковасці прымянення новай тэхнікі, выражаецца ў паляпшэнні вытворчай дзейнасці прадпрыемстваў, а на ўзроўні сельскай гаспадаркі ў павелічэнні нацыянальнага даходу.

Экономические законы — эканамічныя законы. Найбольш істотныя, устойлівыя аб'ектыўныя узаемазалежныя і прычынна-следчыя сувязі ў эканамічных працэсах і з'явах. Э.з. - законы развіцця адносін вытворчасці, размеркавання, абмена і спажывання.

Экономические интересы — эканамічныя інтарэсы. Аб'ектыўныя, вызначаныя эканамічнымі адносінамі істотныя і устойлівыя сувязі, якія абумоўліваюць неабходнасць задавальнення склаўшыхся і развіваючыхся матэрыяльных патрэб грамадства, класа, сацыяльнай групы, калектыву ці асобы.

Экономические категории - эканамічныя катэгорыі. „Уяўляюць сабой ... тэарэтычныя выяўленні, абстракцыі грамадскіх адносін вытворчасці" (Маркс К., Энгельс Ф. Соч., т. 4, с. 133). Кожная Э.к. - гэта навуковае паняцце, якое адцягнена характарызуе сутнасць якой-небудзь эканамічнай з'явы.

Экономический кризис перепроизводства — эканамічны крызіс перавытворчасці. Спосаб найбольш канцэнтраванага, бурнага і разбуральнага праяўлення, а разам з тым і частковага часовага разбурэння непрымірымых антаганістычных супярэчнасцей капіталістычнага ўзнаўлення.

Экономический раздел мира — эканамічны падзел свету. Адна з найгалоўнейшых эканамічных рыс імперыялізму, сістэма пагадненняў паміж манаполіямі імперыялістычных дзяржаў аб раздзеле сусветнага капіталістычнага рынка.

Эксплуатация человека человеком — эксплуатацыя чалавека чалавекам. (Ад франц. exploitation - выкарыстанне, атрыманне выгады). Бязвыплатнае прысваенне класам уласнікаў сродкаў вытворчасці прадуктаў прыбавачнай, а часта і часткі неабходнай працы непасрэдных вытворцаў.

Экспорт — экспарт. Вываз тавараў і іншых матэрыяльных каштоўнасцей з якой-небудзь дзяржавы для рэалізацыі іх на знешніх рынках.

Экспроприация — экспрапрыяцыя. Пазбаўленне ўласнасці і ранейшага становішча аднаго грамадскага класа другім ці ўнутры класа — аднаго яго слоя другім.

Эмбарго — эмбарго. Забарона ўвозіць з якой-небудзь дзяржавы ці вывозіць у якую-небудзь дзяржаву тавараў, золата, каштоўных папер.

Эмиссия — эмісія (ад лац. *emissio* - выпуск). Выпуск у абарачэнне грошай і каштоўных папер.

Энергетический кризис — энергетычны крызіс. Адзін з відаў нецыклічных эканамічных крызісаў у эканоміцы, частка сыравіннага крызісу.

Эффективность общественного производства — эфектыўнасць грамадскай вытворчасці. Найгалоўнейшы эканамічны паказчык, які характарызуе суадносінасць атрыманых грамадствам эканамічных вынікаў і зробленых затрат.

## Ю

Юридическое лицо — юрыдычная асоба. Рыначны суб'ект (арганізацыя, прадпрыемства ці фірма), які валодае адасобленай маёмасцю, можа ад уласнага імя набываць маёмасныя і асабістыя немаёмасныя правы, несці абавязкі, быць істцом і адказчыкам у судзе і арбітражы. Дзейнічае на аснове статута ці палажэння, мае сваю назву, месцазнаходжанне і адказвае па сваіх абавязацельствах сваёй маёмасцю. Юрыдычная асоба спыняе сваё існаванне шляхам ліквідацыі ці рэарганізацыі (зліцця, падзелу ці далучэння).

## Я

Ярмарка — ярмарка. Перыядычна арганізаваныя ва ўстаноўленым месцы таргі, рынкі тавараў. Важную ролю ў эканамічным жыцці дзяржаў (асабліва Заходняй Еўропы) адыгрывалі ў сярэднія вякі. Пасля другой сусветнай вайны адбываецца адраджэнне ярмарак у шэрагу гандлёвых цэнтраў Еўропы і Паўночнай Амерыкі. Ярмаркі бываюць сусветныя, міжнародныя, рэгіянальныя, нацыянальныя, мясцовыя. Зараз ярмарка як форма гандлю пачала зноў адраджацца ў нашай краіне.



Вучэбнае выданне

Базылева Ганна Іванаўна

Слоўнік эканамічных тэрмінаў

250905

Падпісана да друку 23.03.92. Фармат 60х84 1/16.
Папера друк. № 2. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 3,38 (3,14).
Ул.-выд. арк. 2,8. Тыраж 70 экз. Заказ 241. Цана 90 к.

Ратапрынт МДПІ імя А.М.Горкага. 220809, г. Мінск, вул. Савецкая, 18.

